ЛіМ
ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
29 СНЕЖНЯ 1995 г. № 52 (3824) Кошт 2 500 руб.

## МАЯТНІК ХІСНУЎСЯ ЎЛЕВА — ШТО ДАЛЕЙ?

***Анатоль МАЙСЕНЯ: "Што тычыць нашай Беларусі, дык яна "паружавела" ў той час, калі, фактычна, амаль ніякага руху ў бок цывілізаванага рынку не адбываецца..."***

**4**

## "СІМВАЛЫ ТАМУ І ЁСЦЬ ГІСТАРЫЧНЫЯ, ШТО ДА ІХ ВЯРТАЮЦЦА"

***Анатоль ЦІТОЎ: "Адна з крыніц паходжання "Пагоні" — культ св. св. Барыса і Глеба... Барыс — рыцар з мечам, а Глеб— рыцар з дзідай. Тут, праўда, атрымліваецца такая рэч: Барыс быў старэйшым братам, а мы маем герб Барыса. Масква ж мае герб "Яздок", які толькі ў сярэдзіне XIX ст. стаў афіцыйна называцца "Георгіем Пераможцам" (тапаграфія св. Глеба). Тады выходзіць, што мы — "старэйшыя браты".***

**5**

## У КОЖНАГА СВАЁ СВЯТА

***Алена ВАСІЛЕВІЧ: "І ўсе ранейшыя нашы "карбанарыі", "якабінцы", "дысідэнты" канчалі тым, што настойліва і паспяхова імкнуліся — адзін перад другім навыперадкі! — далучыць сябе да гэтай зняважанай імі ж самімі суполкі, імя якой — Саюз пісьменнікаў!.."***

**6—7**

## ПЕСНІ ПРА КАХАННЕ

***Новыя вершы Анатоля СЫСА.***

**8**




*Беларусь, твой народ дачакаецца*
*Залацістага, яснага дня.*

Максім БАГДАНОВІЧ

# ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Год стары, калі не лічыць двух тлумных перадсвяточных дзён, можна сказаць, ужо адышоў у мінулае. А пра тых, што адышлі, як кажуць, — альбо добра, альбо нічога. Таму памаўчым, бо год гэты быў не самым лепшым у гісторыі незалежнай Беларусі. Развітаемся з ім па-хрысціянску, памянём рэферэндум і доўгія выбары, памянём стары парламент і вып'ем за год Новы, вып'ем за надзею, што прынясе ён шчасце, спакой і дабрабыт у кожную беларускую сям'ю, што не стане ў ім на адну краіну менш у свеце і менш на адзін народ... Сумны атрымаўся тост, як, на жаль, і настрой у большасці беларусаў сёння.***

## ПРАБЛЕМА ТЫДНЯ

Што б там ні казалі, а палітычнае жыццё на Беларусі сёння не затухае ні на хвіліну. Бо ёсць ужо каму падтрымліваць гэтае цяпельца. Вось, здавалася б, мінулы тыдзень прайшоў у адпачынках пасля выбараў і лёгкім перадсвяточным настроі. Але не — на газетных старонках палітычнае напружанне трымалася. Нібы згаварыўшыся, аглядальнікі газет пачалі раскрутку тэмы — хто ж стане спікерам новага парламента. Сярод магчымых пераемнікаў М. Грыба ўжо названа больш за два дзесяткі дэпутатаў, у тым ліку і ён сам. Бадай, няма той газеты, якая б не прысвяціла некалькі публікацый аналізу шанцаў таго ці іншага палітыка заняць крэсла спікера, не правяла апытанне на гэты конт сярод саміх кандыдатаў і сярод простых назіральнікаў. А "Народная газета" нават пачала апытанне сярод сваіх чытачоў на прадмет: каго яны хацелі б бачыць спікерам і хто, на іх думку, стане ім. Сама "НГ" вельмі трапна назвала тую гульню, што распачалася зараз вакол крэсла старшыні парламента: "На палітычнай арэне ціха. А за кулісамі — валтузня".

## ПРАЖЭКТ ТЫДНЯ

Нашай школе пагражае чарговае рэфармаванне. У чым яно будзе заключацца — пакуль невядома, але ўжо тое, што распачынае яго сам прэзідэнт, наводзіць на журботны роздум. Распараджэнне аб правядзенні рэформы пачатковай і сярэдняй адукацыі ў краіне будзе падпісана прэзідэнтам у бліжэйшы час. Але адлаведныя ўказанні, паведамляе БЕЛТА, міністр адукацыі і навукі В. Стражаў ужо атрымаў. Правядзенне рэформы, дадае БЕЛТА, разлічана на многія гады, а праект яе хутка будзе апублікаваны ў сродках масавай інфармацыі для шырокага абмеркавання. Абмяркуем. Толькі ці прыслухаецца хто да нашага голасу?

## ЗАДАННЕ ТЫДНЯ

Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Міхаіл Мясніковіч падпісаў распараджэнне аб правядзенні з 25 снежня г. г. па 1 траўня наступнага конкурсу на лепшы тлумачальны тэкст да Дзяржаўнага герба і Дзяржаўнага сцяга Беларусі. Зноў пастаўлена ўсё з ног на галаву. Спачатку нехта нешта прыдумаў, а цяпер трэба яго патлумачыць, "раскрыць сэнс і значэнне... сімвалаў у цэлым, а таксама іх асобных элементаў". Прычым з гістарычнага, культурнага і эстэтычнага бакоў... Пераможцам паабяцаны 2 першыя і 2 другія прэміі (па 50 і 30 мінімальных заробкаў кожная), пісаць можна на дзвюх "дзяржаўных" мовах, а ўдзельнічаць у конкурсе могуць не толькі грамадзяне Беларусі, але і, што вельмі дэмакратычна, — усяго свету. Журы конкурсу ўзначаліў мастак Міхаіл Савіцкі, а разам з ім "ацэньваць тэксты" будуць У. Замяталін, член-кар. Акадэміі навук, прафесар А. Жураўскі, дацэнт БТУ У. Казлякоў, старшыня камітэта па архівах і справаводстве А. Міхальчанка, начальнік дзяржаўнай геральдычнай службы В. Насевіч і пісьменнік Эдуард Скобелеў. Шкада, што "выбілі" апошняга, ён якраз мог бы стаць пераможцам конкурсу. Ну, а іншым скажам — дзярзайце! Але перш раім усё ж пачытаць на 5-й старонцы сённяшняга "ЛіМа" гутарку з сапраўдным геральдыстам Анатолем Цітовым пра герб, зганьбаваны ў год свайго 700-гадовага юбілею, пра герб, дзеля абгрунтавання якога не трэба праводзіць дзяржаўныя конкурсы і траціць дзяржаўныя сродкі. Ён быў, ёсць і будзе, незалежна ад стаўлення да яго любых уладаў.

## ДЗЯЛЬБА ТЫДНЯ

Прэзідэнт Беларусі даручыў распрацаваць новае палажэнне аб размеркаванні стыпендыяльнага фонду для студэнтаў ВНУ і тэхнікумаў. Дзейнічаць новае палажэнне пачне з 1 студзеня, а з'яўленне яго выклікана, зразумела, клопатам аб сацыяльнай абароне падрастаючага пакалення. Змест палажэння, праўда, ужо вядомы і паведамлены ў друку: цяпер будзе 3 віды стыпендый — сацыяльныя, вучэбныя і імянныя, а памер іх будзе залежаць ад вучобы студэнта. Студэнты з сярэднім балам паспяховасці ад 3 да 3,4 атрымаюць сацыяльныя стыпендыі, з сярэднім балам вышэй за 3,4 — вучэбныя, а самыя лепшыя "вучні" — імянныя. Савецкая сістэма адукацыі за 70 гадоў свайго існавання так і не змагла знайсці спосаб справядліва дзяліць стыпендыяльныя грошы між студэнтамі. І "троечнікаў", дарэчы, крыўдзіла. Незаслужана крыўдзіла. Што ж, справядлівасць аднаўлена і толькі яна цяпер будзе правіць баль.

## ПРЫСУД ТЫДНЯ

Народны суд Першамайскага раёна г. Мінска прызнаў былога генеральнага дырэктара дырэкцыі праграм Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Бахціяра Бахціярава вінаватым і прыгаварыў яго да 4 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Нагадем, што Б. Бахціяраў быў затрыманы ў красавіку г. г. пры спробе атрымання хабару ў памеры 590 долараў. На судзе ён віну сваю не прызнаў, аднак суд, абапіраючыся на паказанні сведак, прыняў суровае рашэнне.

## КРАДЗЁЖ ТЫДНЯ

Малавядомы пры жыцці рэчыцкі мастак Аляксандр Ісачоў пасля заўчаснай смерці атрымаў сапраўднае прызнанне. Выставы ягоных работ у гарадах Беларусі на пачатку перабудовы мелі вялікі поспех і шмат удзячных гледачоў. На мінулым тыдні з Гомельшчыны прыйшло трывожнае паведамленне: кватэра сям'і мастака Ісачова абрабавана. Чатыры злачынцы звязалі непаўналетнюю дачку мастака і выкралі 14 палотнаў Ісачова, што маюць сёння нацыянальную каштоўнасць. Рынкавы ж кошт выкрадзеных карцін складае не менш за 1 мільён долараў. Аператыўныя вышукі пакуль нічога не далі. Следства працягваецца.

## ДЗІВА ТЫДНЯ

Сонечнай раніцай аднаго дня (была серада), калі церушыўся лёгенькі сняжок, у раёне вуліц Танкавая і Раманаўская Слабада мінчукі дзівіліся на вясёлку ў небе. Самую сапраўдную — каляровую дугу, як улетку пасля дажджу. Перадднавагодні сюрпрыз прыроды? А ці добры гэта знак добрым людзям?

***P. S.Няма нічога больш небяспечнага для беларуса, чым сум. І няма нічога больш лекавага і стваральнага, чым весялосць. А таму — забудзем пра ўсе свае праблемы і цяжкасці, пакінем іх у мінулым годзе, весела сустрэнем Новы год і захаваем зарад бадзёрасці на ўвесь год. І тады не страшныя нам ні пагрозы дыктатуры, ні прывід аб'яднання, бо мы — не дапусцім іх. І тады ўсё ў нас атрымаецца так, як хочам мы. Усё ў нас атрымаецца!***

***З Новым годам!***

З нагоды

# ХАЙ ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

Я ведаю, што ён скажа, калі з'явіцца на тэлеэкране паміж старым і Новым годам. Ды што я, — усе ведаюць! Ён будзе тлумачыць, што ўсе ягоныя дзеянні і ўчынкі былі накіраваны на тое, каб Беларусь нарэшце мела парламент, і цяпер, калі парламент ёсць, ён — шчаслівы. Ён назаве нейкія лічбы, згодна з якімі сёння мы жывём лепей, чым жылі год назад, а праз год будзем жыць лепей, чым жывём сёння. Ён нагадае, што хоць і цяжка жыць, але "не голые по улицам ходят" і "в Белоруссии не льётся кровь"...

Блізка да сярэдзіны года, у траўні, я міжволі неяк падумаў, за якія гэта грахі літасцівы Бог наканаваў мне жыць у гэтай краіне ў гэты час і быць сведкам гэтае ганьбы... Лепей бы жыць у час Слуцкага збройнага чыну.

Потым быў гвалт над Свабоднымі прафсаюзамі.

Потым верталёт нібыта беларускага войска, але памечаны бальшавіцкай чырвонай зоркай, спаліў у беларускім небе амерыканскі паветраны шар.

Потым наш прэзідэнт, даючы інтэрв'ю нямецкай газеце, пазітыўна выказаўся адносна асобы, якую пад Новы год і прыгадваць не хочацца.

Потым была заява аб намеры ўвесці "прямое президентское правление".

А потым былі выбары...

На фоне ўсяго пералічанага як цуд успрымаецца наяўнасць у нашай краіне парламента. Тое, што людзі прыйшлі на выбары, — сапраўды цуд!

Хочацца павіншаваць суайчыннікаў з тым, што ў гэтым годзе мы пазбеглі дыктатуры.

З тым, што на вуліцах няма бронетранспарцёраў і ўзброеных патрулёў.

З тым, што той, хто пасля святкавання Новага года будзе вяртацца дадому пад раніцу, не рызыкуе патрапіць у міліцэйскі пастарунак з прычыны "каменданцкай гадзіны".

Мы святкуем Новы, 1996 год ад Нараджэння Хрыстовага. Колькі ўсяго адбылося амаль за дзве тысячы гадоў, як у свет прыйшоў наш Збаўца! Колькі адышло ў нябыт імперый і народаў; колькі людзей памерла не сваёй смерцю ў сусветных і рэгіянальных войнах; як вонкава змяніўся свет і якімі нязменнымі засталіся людзі! Яны па-ранейшаму забываюць пра Бога, калі ў жыцці ўсё больш-менш ладзіцца, і ўспамінаюць пра Яго толькі ў часіну нягоды.

Сёння нам цяжка. Ці тыя клопаты маем мы ад уласнага глупства, ці насланыя яны вышэйшай сілай — мы вымушаны гэта перажыць.

Хай 1996 год будзе для нашай краіны годам вяртання вершніка Пагоні з хрысціянскім крыжам на тарчы ў дзяржаўны герб і нашыя душы!

Хай жыве Беларусь!

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# "ВЯРШЫНЯ МАГЧЫМАСЦЕЙ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА",

## АБО ВЫСНОВА-АДКРЫЦЦЁ ПІСЬМЕННІКА І ПАЛІТОЛАГА Э. М. СКОБЕЛЕВА

У "Цэнтральнай газеце" (N 51 за 22—23 снежня гг.) апублікавана гутарка Н. Шэлдышавай з "белорусским писателем", "художником и мыслителем" Эдуардам Скобелевым. Цытаты з гэтае гутаркі падаём у арыгінале, каб, не дай Бог, не сказіць.

"Я уже говорил в недавнем интервью на радио, что в лице Александра Лукашенко наш народ интуитивно и гениально выбрал уникальную фигуру, обладающую громадным историческим диапазоном. Это вершина возможностей белорусского народа на сегодняшний день. Я утверждаю это по многим причинам, но прежде всего потому, что в своей жизни реально лицезрел крупнейших политиков от Джона Кеннеди до Фиделя Кастро, от Никиты Хрущёва до Машерова и имею реальные представления о масштабах личности...

И Лукашенко, образно говоря, должен теперь, аккумулировав все высшие силы белорусского народа, предметно, практически доказать, что значит этот народ. (Тут мала размаўляць на цудоўнай мове, тут трэба нешта іншае). Тут и коллективная мудрость мало значит: ведь речь идет по сути об открытии, но открытия не создаются простым голосованием. Выбор и ответственность — это и есть историческое открытие. Повторяю, фигур, даже близко равных А. Лукашенко по потенциалу, у нас сегодня нет. Есть крикуны и самовлюбленныя посредственности, а деятелей, заключающих в себе и свет народа, и его национальную идею, увы, пока нет..."

Усё правільна, Эдуард Мартынавіч. Зусім правільна і справядліва. Адно толькі ўпушчэнне. Трэба было б патлумачыць, хто шляхам гістарычных перамог прывёў наш народ да гэтай вяршыні магчымасцей, да гэтага геніяльнага выбару. Зрэшты, чытачы зразумеюць гэта і без падказкі. Помняць, ведаюць.

**М. Г.**

# ЭПІГРАМЫ-ВІНШАВАННІ

*Наш даўні аўтар Сцяпан Сініца прыкладна раз у паўгода натхняецца на эпіграмы і іншыя сатырычныя "творы", а пасля, як мы заўважылі, зноў упадае ў анабіёз. Не ведаем, чым не дагадзілі (або наадварот — дагадзілі) яму прадстаўнікі крытычнага цэху, але на гэты раз С. Сініца прайшоўся менавіта па іх. Зрэшты, хто каго чубіць... Ну, самі ведаеце...*

Сцяпан СІНІЦА

## ВАСІЛЮ АЎРАМЕНКУ

**Патанеў партфель наш станам,
Непрыстыжным стала слова.
І было б зусім пагана,
Каб не доктар з Магілёва.**

## ЯЎГЕНУ БЯЛАСІНУ

**Пра што ні піша — дасць цытату
З нямецкай (бо канчаў "ін-яз").
Ён духам вольны і багаты
І закруціць умее сказ.**

## ЕВЕ ЛЯВОНАВАЙ

**І веды, і годнасць,
і прага дабра...
Хіба мы паверым,
што Ева — з рабра?**

## БУДУЧАМУ ПРАФЕСАРУ

**— А хто там ідзе?
А хто там?
— Іван Чарота.
— А што ён нясе, сагнуты?
— Свае талмуды.
— А што ў іх,
такіх грунтоўных?
— Там думак поўна.**

## ЛЮДМІЛЕ КОРАНЬ

**Ў крытычным нашым агародзе
Відна здалёк,
ды годзе, годзе...
Шчэ перахвалім, і гатоў
Нас лаяць дзядзька Бугаёў.**

## ДАЛЁКІМ АЎТАРАМ

**На тэлефон вялікія затраты,
А вынік — нуль.
Канае ў ваце гук.
І невядома, чым яны заняты —
Пяткевіч,
Штэйнер,
Ярац,
Ігар Жук...**

## КАВАЛЕНКУ-МАЛОДШАМУ

**Ёсць аўтары, што пішуць
раз у год.
Затое як! На цэлы разварот!**

## ЛІДЗІІ САВІК

**Як з-за мора прыедзе дадому,
То партрэты пісаць не ляніцца.
Ёй удзячная уся "заграніца",
Ну, і "ЛіМ" не ў накладзе,
вядома...**

## ПЯТРУ ВАСЮЧЭНКУ

**Яго артыкулам мы рады,
Як рады ўсім дарэчным людзям.
А што шырокі у паглядах,
Дык мы звужаць яго не будзем.**

## ...І АСТАТНІМ

**Знаходка наша — Шынкарэнка,
Кузьміч — разважная паненка,
Мінскевіч — аўтар малады,
Што прыбяжыць рады ў гады,
М. Скобля — ў крытыцы паэт,
А. Бельскі,
што свой торыць след, —
Вітанне нашае усім!
Пішыце больш.**

**Сініца. "ЛіМ".**

## НА СУМЕЖЖЫ ГАДОЎ

***Час одуму, час спадзяванняў...***

***Ён, гэты час, прыходзіць да чалавека менавіта на сумежжы гадоў, калі адзін год адыходзіць, а другі — прыходзіць. Тады міжволі і нараджаецца ў чалавеку патрэба азірнуцца назад, на год пражыты, паразважаць над тым, які ён быў, якія прынёс страты і здабыткі, чым усцешыў і чым засмуціў... А, з другога боку, час гэты выспельвае ў душы і новы спадзеў, які звязваецца ўжо з годам надыходзячым; веру ў тое, што ён, з вялікай літары Новы год, будзе лепшым, шчадрэйшым, шчаслівейшым, больш плённым на самыя розныя, матэрыяльныя і духоўныя, скарбы, увогуле больш удачлівым, чым год стары (вядома ж, з малой літары).***

***На гэтым сумежжы гадоў "ЛіМ" звярнуўся да групы пісьменнікаў падзяліцца — сцісла, кшталтам навагодняга тосту — з чытачамі сваім одумам пра год стары і спадзяваннямі на год Новы. Звярнуліся да тых, каму, з аднаго боку, ужо за семдзесят, і да тых, хто не старэй сарака, каму пад трыццаць і за трыццаць.***

***Старэйшым — слова сёння, у апошнім нумары штотыднёвіка за 1995 год. Маладзейшыя возьмуць слова ў першым нумары "ЛіМа" ўжо года новага, 1996-га...***

Іван НАВУМЕНКА

# СПАДЗЯВАННЕ НА ЛЕПШАЕ



Як жывецца на схіле старога года? Ды, бадай, так, як і ўсім пісьменнікам. Наўрад ці можа сёння хто-небудзь з нас разлічваць, што ўдасца пражыць за творчую працу. Але хоць бы кнігі выходзілі, а то даводзіцца чакаць іх гадамі. Напрыклад, яшчэ ў лютым я вычытаў карэктуру свайго рамана "Сорак трэці", але і па сённяшні дзень ён не пабачыў свет. На 1996 год запланаваны ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" другі том збору маіх твораў, які складаецца з рамана "Смутак белых начэй", аповесцяў "Інтэрнат на Нямізе", "Развітанне ў Кавальцах", "Апошняя восень". Дык тут становішча яшчэ горшае — нават карэктуры няма.

І ўсё ж пісьменнік не можа не працаваць. Таму і я жыву новымі творчымі планамі. Нядаўна скончыў аповесць "Любімы горад", якую часопіс "Полымя" абяцае змясціць у другім нумары за 1996 год. Гэта працяг маіх аўтабіяграфічных твораў, з якімі чытач меў магчымасць пазнаёміцца раней. Цяпер галоўны герой паказаны ў пасляваенны час. А назва аповесці ўзята невыпадкова. Некалі вельмі папулярнай была песня пра любімы горад, які можа спаць спакойна. Я і вырашыў з вышыні сённяшняга дня, з вышыні свайго жыццёвага вопыту глянуць на самога сябе і сваіх равеснікаў у тым узросце, калі яны сама ўваходзілі ў жыццё. Мелі ўжо немалы вопыт, перажылі вайну і разам з тым у многім па-ранейшаму заставаліся празмерна рамантычнымі, а таму і "цяжка ім было прывыкаць да суровых абставін паўсядзённасці.

Працягваю пісаць апавяданні. Некалькі запланавана ў трэці нумар часопіса "Маладосць". Увогуле, жанр апавядання мне вельмі падабаецца. Асабліва апавяданне невялікае памерам, — недзе пяцьшэсць твораў задумана. А сюжэты ўзяты з сучаснасці.

Праўда, за ажыццяўленне гэтай задумы вазьмуся крыху пазней. А цяпер працую над кнігай пра Максіма Багдановіча. Як чытач ведае, нядаўна ў мяне выйшлі гэткія ж даследчыцкія кнігі пра Дуніна-Марцінкевіча і Змітрака Бядулю. З прыцягненнем новых матэрыялаў. Ёсць у мяне і некалькі малавядомых фактаў з жыцця Багдановіча...

Так што ў Новым годзе хочацца спадзявацца на лепшае, а калі ў лепшае верыцца, то і працуецца...

Эдзі АГНЯЦВЕТ

# ДЛЯ ЗГОДЫ ЛЮДСКОЙ...

Я жыву аднымі спадзяваннямі. Жыццё стала надта скупое на радасці — нават такія маленькія, як званок альбо ліст ад даўняга сябра. Год мінулы, які можна назваць высакосным, забраў ад мяне, ад усіх нас дарагіх людзей, па якіх баліць сэрца.

Я ніколі не была песімісткай. Імкнуся нават у самыя чорныя часіны знайсці прасвет. І ў дні пакут, якія нечакана наваліліся на мяне, — верую ў перамогу сіл дабра.

Ад чаго толькі не залежыць лёс чалавека! Хто б мог падумаць, што ў наш мірны час з'явяцца на Беларусі бежанцы — бедныя маці і дзеці з Чачні! Што дзесьці, далёка ад роднага дому, будуць гінуць юныя хлопцы, якіх гадавалі мацяркі для любові, працы, міру?!

У нашай незалежнай краіне я залежу

**Ад хворых вачанят дзяцей —
Ім выжыць сёння ўсё цяжэй!**

Не хачу, не хачу, каб дзесяцігоддзе чарнобыльскай катастрофы стала афіцыйнай, т. зв. "юбілейнай" датай! Калі ўсё болей і болей становіцца хворых малых — будучыні нацыі, — неабходна ратаваць іх! Чаму са старонак газет зніклі звесткі аб забруджаных лясах і рэчках? Каму і калі выдаецца гуманітарная дапамога?

Мала хто аб гэтым ведае.

Хай у вачах дзіцяці заблішчыць усмешка! Кнігу выбранага я назвала "Хай часцей смяюцца дзеці!"

**Нараджаюцца малыя
Для жыцця на белым свеце.
Як званочкі веснавыя,
Хай часцей смяюцца дзеці!**

Але... Кніга, аформленая з густам маладой мастачкай Святланай Рыжыкавай, доўга ляжыць на стале вытворчага аддзела выдавецтва "Юнацтва". Што я магу сказаць дзецям, якім прывыкла дарыць свае кнігі? Можа, расказаць, як дарослым людзям, што ў пераходах метро прадаецца рознае глупства, надрукаванае ў прыватных выдавецтвах! Я турбуюся не толькі аб сабе самой: колькі ж маіх паплечнікаў і маладых сяброў дзяліліся са мною сваімі перажываннямі з гэтай жа прычыны!

У такое ж самае становішча трапіла мая новая работа — рукапіс лірычнай кніжкі "І смутак, і святло" ("Мастацкая літаратура"). Катастрафічна не хапае паперы. Іду ў Новы год з пажаданнямі, каб кіраўнікі нашай дзяржавы не на словах клапаціліся аб развіцці літаратуры на Беларусі.

Вельмі радуе тое, што ў рэшце рэшт выбраны ў нас новы парламент. Спадзяюся, што нашы парламентарыі будуць вартымі даверу многіх людзей. Хай будзе меней доўгіх, прыгожых прамоў, а паболей шчырай, сапраўднай работы! Жадаю ім удач!

Усім сваім блізкім і сябрам жадаю добрага здароўя і творчага плёну!

**Для згоды людской
мы збіраем сяброў.
Дары, чалавек,
чалавеку любоў!
Ідзе Новы Год,
Народ весяліцца.
Жыве Беларусь —
Маладосці крыніца!**

Васіль ВІТКА

# ДЫЯГЕН ШУКАЕ ЧАЛАВЕКА



Адыходзіць 1995. У нябыт? Не. І гэты, як і папярэднія, не на сухія лясы і гнілыя балоты. А чорнымі плямамі на памяць, крывавымі рубцамі на душы і сэрцы людскія.

Чалавек, унікальнае дзіва на планеце, вось на каго абрынулася, сарваўшыся з ланцуга, азвярэлая зграя, аблічам падобная на людскія, а раз'юшанасцю і ненажэрнасцю на жывакглотаў — правобразаў будучых міфалагічных казак.

Казак для каго? Няўжо для дзетак — болю маёй душы, болю за іх лёс? Якімі яны стануць, цяперашнія? Збэшчаныя, знявечаныя душы?

На маёй памяці яшчэ тыя, мае равеснікі, бязродныя, беспрытульныя, сіроты і злачынцы, якіх лавілі, выцягвалі з сутарэнняў, з бандыцкіх нор Макаранка з Дзяржынскім. І ратавалі тады адзіна магчымым спосабам — пры дапамозе лагера і камуны. Пасля ён, гэты спосаб выхавання, быў узаконены і кананізаваны, як самы надзейны для ўсёй дзяржаўнай сістэмы.

Спатрэбіўся амаль век для яе выпрабавання з усімі войнамі — і грамадзянскай, і апошняй разам з сістэмай, якая з'ела сама сябе, каб пераканацца, нарэшце, што не лагер, не камуна фарміруюць асобу чалавека, а ў выніку якраз вось такую зграю, верхаводы якой яшчэ і дагэтуль не могуць забыць сваіх куміраў — Гітлера і Сталіна.

Памятаеце, колькі было ўзрушэння і радасных спадзяванняў яшчэ нядаўна, перад набліжэннем краху імперыі, як усе раптам убачылі, якім ёсць сапраўдны настаўнік і які ўжо выйшаў, падняўся на самую высокую тады трыбуну — на экран у Астанкіна? Колькі іх з'явілася, падзвіжнікаў, творцаў, наватараў, вопыт якіх адразу ж падхапіла практычная педагогіка многіх краін свету! Усіх імёнаў і не пералічыш. Яны ўсе на людской памяці.

Вось тут і спахапілася тады яшчэ адзіная кіруючая і накіроўваючая: як без нас? Хто пасягнуў на манаполію? Тэрмінова быў скліканы ўсеагульны з'езд настаўнікаў, але не саміх творцаў жывой педагогікі, а ў першую чаргу — адміністратараў і чыноўнікаў казённага дэпартамента адукацыі. З асноўным дакладам, вядома ж, выступіў галоўны ідэолаг тагачаснага цэнтра мудрасці — Лігачоў. Устаноўкі былі ясныя па сваёй катэгарычнасці, да таго ж, неўзабаве пачалася і так званая перабудова, што нікому ўжо і ў галаве не стала клопату пра выхаванне, дый пра дзяцей.

І толькі сёлета прыклад увагі да праблем выхавання першай, як заўсёды, паказала Беларусь. Нашы самыя слынныя знаўцы педагогікі, унёсшы ўсім вядомы ўклад у гэтую навуку, пасутнасці, зрабілі ў ёй новы пераварот, глыбінны, з-пад самага споду — найлепш вучыць і выхоўваць чалавека дагары нагамі. Адкрыццё пакуль што не даследавана на практыцы. Зноў мы голыя і босыя на вогнішчы, на папялішчы і руінах.

А ці не забыліся вы, якія шматтысячныя аўдыторыі збіралі стадыёны на сустрэчы з паэтамі? Можа, не такое мноства ў нас аматараў паэзіі, але кожны, хто трапляў на такія вечары, прадчуваючы немінучасць жаданых перамен у жыцці і ў грамадстве, прагна лавіў кожнае жывое слова.

Дзе ты цяпер, наш слухач, наш чытач?

Які Дыяген з ліхтаром знойдзе цябе?

Будзем спадзявацца — знойдзе, калі ўдасца яму нарэшце сустрэць Чалавека.

***Нядаўна ў друку з'явіўся ўказ прэзідэнта А. Лукашэнкі, згодна з якім павінна праводзіцца папулярызацыя тых герба і сцяга, што на травеньскім рэферэндуме 1995 года былі прыняты ў якасці новых. Пасля ўказа іх пачалі паказваць перад кожным выпускам навін, яны павінны з'явіцца ў кабінетах дзяржаўных службоўцаў, устаноўлены нават дзень Дзяржаўнага Сцяга й Дзяржаўнага Герба.***

***Але праект новай сімволікі не абмяркоўваўся ні шырокай грамадскасцю, ні людзьмі, якія маюць геральдычныя і вексілалагічныя веды.***

***Дык што ж наконт новай сімволікі думаюць спецыялісты? З гэтым пытаннем агляддальнік "ЛіМа" Аляксей Шэін звярнуўся да дацэнта кафедры археалогіі, этнаграфіі і дапаможных гістарычных дысцыплін БДУ, ганаровага сябра Усерасійскага геральдычнага таварыства, правадзейнага сябра Польскага й Украінскага геральдычных таварыстваў, аўтара шматлікіх кніг па гісторыі геральдыкі ("Гербы беларускіх гарадоў", "Гарадская геральдыка Беларусі", "Пячаткі старажытнай Беларусі" і інш.) сп. Анатоля Цітова.***

# "СІМВАЛЫ ТАМУ І ЁСЦЬ ГІСТАРЫЧНЫЯ, ШТО ДА ІХ ВЯРТАЮЦЦА"

**— Сп. Анатоль, дзяржаўная сімволіка — гэта твар дзяржавы, тое, па чым яе пазнаюць іншыя народы. Яна даецца гісторыяй і ўбірае ў сябе ўвесь гістарычны шлях, пройдзены дзяржавай. Скажыце, ці было ў свеце калі-небудзь такое, каб пытанне дзяржаўнай сімволікі вырашалася на рэферэндуме?**

— Перш чым дайсці да гэтага пытання, трэба сказаць, што геральдыка — гэта навука, якая нарадзілася недзе ў 12 ст. і мае такія ж жорсткія законы, што і арыфметыка. Але ў нас усе чамусьці мяркуюць, што нельга быць спецыялістам у фізіцы, не вучыўшыся, а можна быць спецыялістам у геральдыцы (чаму мы і маем сёння адпаведныя вынікі).

А ў прынцыпе такіх прэцэдэнтаў, калі пытанне сімволікі вырашаецца на рэферэндуме, я не ведаю. Нельга зыходзіць толькі з таго, што "падабаецца — не падабаецца". Ёсць гісторыя, і тое, што нам памянялі сімволіку, спасылаючыся на думку народа —гэта ўвогуле некарэктная пастаноўка пытання. Да таго ж ішла масіраваная атака контрнацыянальных сіл, якія імкнуліся зніверляваць і знішчыць беларускую нацыянальную спадчыну й культуру.

Я нядаўна быў на IX Акадэміі геральдыкі, што адбывалася ў Кракаве, дзе я адзін рэпрэзентаваў Беларусь. І мне было вельмі непрыемна, калі падыходзілі калегі, асабліва са славянскіх краін, ды гаварылі: "Што вы, беларусы, зрабілі з вашым гербам? Вы мелі 6-ы ці 7-ы герб у Еўропе паводле ўзросту, а абралі сабе нейкую "капусту"?

Зараз наш гэты сімвал успрымаецца як сімвал таталітарнага рэжыму. Гэта нават нельга назваць гербам. Такая канструкцыя герба, акрамя як у нікім не прызнанай Прыднястроўскай Рэспубліцы, больш нідзе ў свеце не існуе. Нават тыя народы на постсавецкай прасторы, якія скокнулі з першабытнага ладу адразу ў сацыялізм, і то знайшлі ў сабе сілы, розум і збудавалі прыстойныя геральдычныя канструкцыі (напрыклад, якуты й чукчы). І толькі мы ды прыднястроўцы маем тое, што маем.

**— Але ж нешта падобнае існуе, памойму, у Таджыкістане?**

— Не, у Таджыкістане іншая пабудова герба. У нашым жа ёсць нават таўталогія — зямля ўнізе і зямля ўверсе. Калі б мы былі нейкай выспай у бязмежных прасторах акіяна — іншая рэч, быў бы сэнс.

А наконт такой канструкцыі... У лістападзе я ездзіў у Львоў. Там адбывалася V Міжнародная канферэнцыя па геральдыцы. Было крыху вольнага часу, і я працаваў у Львоўскім гістарычным музеі ды знайшоў пячатку гарадзенскага аддзялення масонскай ложы. Дык вось сваёй канструкцыяй яна якраз нагадвае наш сучасны герб.

**— Ці можна гаварыць аб нейкай гістарычнасці цяперашняй сімволікі?**

— Цяперашняя сімволіка не гістарычная. Гэта чыста палітычныя сімвалы. Нацыянальная сімволіка — яна адна.

Я ўжо гаварыў, што мы мелі 6-ы ці 7-ы па ўзросце герб у Еўропе. А Еўропа — гэта ўвогуле — радзіма геральдыкі, значыць мы мелі 6-ы ці 7-ы герб у свеце.

Другі момант. Сёлета палякі адзначалі 700 год польскага арла. Гэта былі вялікія святы, яны праходзілі пад патранажам прэзідэнта Валенсы й кардынала Глемба. А калі ўзяць Іпацьеўскі летапіс, то там сказана, што герб "Пагоня" быў абраны ў 1278 г. Праўда, тут магчымы нейкі храналагічны зрух. Лічыцца, што "Пагоню" абраў Віцень, а княжыць ён пачаў з 1295 г. Так што на гэты год прыпадаў 700-гадовы юбілей. Замест таго, каб адсвяткаваць гэты юбілей, мы яго зганьбілі і аплявалі.

**— Наколькі цяперашні герб стасуецца з геральдычнымі традыцыямі Беларусі і Еўропы?**

— Зноў жа паўтаруся. Гэта сімвал палітычнага рэжыму, такая сімволіка была ўведзена бальшавікамі.

Пяцікутная зорка — ўвогуле не еўрапейскі знак, а знак семіцкіх народаў. Шасцікутная — зорка цара Давіда, а пяцікутная — Саламона. Еўрапейскім народам яны былі не вядомыя і прыйшлі пад уплывам Бібліі. Найбольш характэрная фігура для еўрапейцаў — крыж.

**— А што можна сказаць пра новы сцяг?**

— Тут і гаварыць не хочацца нічога... Як ты ведаеш, "Пагоня" — гэта срэбны яздок у чырвоным полі. Паводле законаў геральдыкі і вексілалогіі, навукі аб стварэнні і гісторыі сцягаў, з кожнага герба можна стварыць сцяг. Адзін са шляхоў — калі колер эмблемы бярэцца за колер палотнішча, а колер поля герба бярэцца за паласу — так, як у нас — срэбнае палотнішча з чырвонай паласой. Польскі герб — срэбны арол на чырвоным полі — у іх крыху па-іншаму: верхняя частка срэбная, а дольная — чырвоная. Такая канструкцыя сцягоў, іх гарызантальная пабудова характэрна менавіта для паўночна-еўрапейскіх народаў. Для раманскіх народаў — італьянцаў, іспанцаў, французаў і г. д. характэрна вертыкальная пабудова сцягоў.

Што тычыць нашага чырвона-зялёнага, то ён больш адпавядае мусульманскай краіне, якая стала на шлях пабудовы сацыялізму. Некаторыя мне пярэчылі, што славяне балгары ў сваім сцягу маюць зялёную паласу, але ж гэта тлумачыцца тым, што балгары амаль 500 год былі пад мусульманскім уплывам. У нас такога не было.

Адзін з аргументаў прэзідэнта, калі ён вясной гаварыў пра змену сімволікі: "Паглядзіце, усё вакол у нас зялёнае". А сёння — вакол усё белае. Зноў сцяг мяняць?

**— Прэзідэнт сказаў, што зялёнае — сімвал адраджэння.**

— Сімвал адраджэння... У вексілалогіі што з'яўляецца галоўным? Людзі праз сімвалы абагаўляюць тое, чаго няма. Чаму для мусульман зялёны колер стаў найбольш узвышаным? Яны таксама трактуюць чырвоны як колер славы, багацця, крыві, мужнасці, але зялёны колер для іх найдаражэйшы таму, што ў аравійскіх краінах, дзе нарадзіўся іслам — вакол пустэльня. І калі яны бачаць зялёнае — гэта значыць аазіс, вада, ёсць жыццё. А ў нас?

Я думаю, разам з гэтым гербам знікне й гэты сцях, бо ён поўнасцю пярэчыць гістарычным і геральдычным традыцыям Беларусі.

**— Вы не ведаеце, хто аўтар цяперашняй сімволікі?**

— Ведаю. У гэтым удзельнічала тры чалавекі, якіх я зараз называць не буду. Прыйдзе час, і паіменна назавуць "герояў", якія стваралі гэтую ганебную з пункту гледжання геральдыкі выяву.

**— Ці шмат існуе прыкладаў таго, калі дзяржава пасля змены рэжыму вярталася да сваіх гістарычных сімвалаў?**

— Сімвалы таму і ёсць гістарычныя, што да іх вяртаюцца. Напрыклад, гітлераўская Германія абрала свастыку як антысеміцкі сімвал, таму што свастыка не была вядома семіцкім народам. Само слова "свастыка" у перакладзе з санскрыту — "дабро будзе". Гэта сімвал агню, дабрыні, урадлівасці, сонца. Ёсць яшчэ другі сімвал — "суастыка", люстэркавая выява свастыкі, калі плечы крыжа заламаны ў іншы бок. Калі свастыка — сімвал мужчынскага пачатку, суастыка — жаночая. Гэтыя сімвалы зараз вельмі папулярныя ў Азіі, Індыі, былі вядомы і на Беларусі, што пацвярджаюць і археалагічныя раскопкі. Сімвал свастыкі ўжываўся як кляйно для адзначэння цэглы, рамесных вырабаў. Ёсць пячаткі беларускіх мяшчан, якія карысталіся гэтым сімвалам як сваім гербам, ёсць шляхецкі герб з выявай свастыкі — герб Барэйка.

Як толькі гітлераўскі рэжым пацярпеў паразу, Германія вярнулася да свайго спрадвечнага сімвалу — арла.

Навошта далёка хадзіць. Расія перайшла ад гвалтоўна навязанага бальшавікамі сярпа з малатком да двухгаловага арла. Украіна вярнулася да свайго трызуба. А хто не вярнуўся — дык гэта беларусы і прыднястроўцы.

**— Трэба спадзявацца, што да "Пагоні" мы ўсё-такі вернемся. У сувязі з гэтым я хачу спытацца, ці задавальняе вас выява "Пагоні", якая ў 1991 г. была прынята эталонам Дзяржаўнага герба? Ці, можа, нам трэба пайсці, напрыклад, летувіскім шляхам, не так натуралістычна вымалёўваць каня і г. д. І якім, на вашу думку, павінен быць крыж?**

— Вы якраз наступілі на балючае месца. Рэч у тым, што пры мінулым Вярхоўным Савеце я быў сябрам камісіі па геральдыцы. Там я прапаноўваў некаторыя свае праекты, але, яны, на жаль, не былі прыняты. У той час я не хацеў выносіць смецце з хаты, аб чым зараз вельмі шкадую.

Мне здаецца, што мая канцэпцыя была больш правільнай. Яна заключалася ў тым, каб зрабіць "Пагоню" з яскравымі адметнасцямі і не даць магчымасці антыбеларускім сілам палохаць народ: "Глядзіце, нас хочуць далучыць да Летувы!" Але мяне не зразумелі.

У мяне была прапанова зрабіць асобную міліцэйскую "Пагоню". Дарэчы, дзіўна, чаму — міліцыя. Міліцыя — гэта ўзброеныя атрады грамадзян, якія не знаходзяцца на дзяржаўнай службе, г. зн. іх занятак не прафесійны. Мы ж маем паліцыю, але нехта не хоча называць рэчы сваімі імёнамі. Дык вось, у мяне ёсць пячатка 1812 г. (найстаражытнейшая пячатка праваахоўчых органаў Беларусі — Мінскай паліцыі) з выявай "Пагоні", якая адрозніваецца ад таго ўзору герба, якім карысталася Рэспубліка Беларусь гэтыя нядоўгія чатыры гады. Трэба было ўзяць яе як міліцэйскую "Пагоню"; для вайскоўцаў трэба было зрабіць вайсковую "Пагоню". але нічога зроблена не было, таму што перамог курс на стандартызацыю й уніфікацыю. Былі, праўда, і пэўныя палітычныя прычыны: спрэчка магла завесці ў тупік, і тады ўвогуле нічога не было б прынята. Узровень геральдычных ведаў парламентарыяў быў вельмі нізкім.

А на сённяшні дзень, я мяркую, трэба шукаць свае адметныя рысы, трэба выкарыстоўваць тыя геральдычныя матывы, што ўласцівы Беларусі. Зараз іканаграфічнага матэрыялу шмат, можна ўзяць пячаткі Наваградчыны, Полаччыны, Брэстчыны, Піншчыны і на іх падставе рабіць свой герб.

Увогуле, я хачу сказаць, што летувіскі герб, т. зв. "Віціс" — гэта наш сімвал, які быў узурпаваны буржуазнай Летувой, якая падкрэслівала гэтым свае імперскія тэндэнцыі і прэтэндавала на тэрыторыю сучаснай Беларусі. Трэба адзначыць, што ў 1935 г. прэм'ер Летувіскай рэспублікі Тубаліс на сойме ў Коўне афіцыйна прызнаў не "літоўскае" паходжанне арыгінальнага герба. Але наступныя гістарычныя падзеі пайшлі такім чынам, што было ўжо не да гэтага, А калі ў 1990 г. яны абвясцілі незалежнасць, то вярнуліся да "Віціса", паказаўшы пераемнасць ад той Рэспублікі. Абранне летувісамі гэтага герба было некарэктным, таму што калі супаставіць геральдычныя й гісторыка-геаграфічныя матэрыялы, можна ўбачыць, што ён размяшчаецца толькі на тэрыторыі этнічных беларускіх земляў. Герб Жмудзі, сучаснай Летувы — мядзведзь.

Адна з крыніц паходжання "Пагоні" — культ св.св. Барыса і Глеба — аб гэтым яшчэ ніхто не гаварыў. Барыс — рыцар з мечам, а Глеб — рыцар з дзідай. Тут, праўда, атрымліваецца такая рэч: Барыс быў старэйшым братам, а мы маем герб Барыса. Масква ж мае герб "Яздок", які толькі ў сярэдзіне XIX ст. стаў афіцыйна называцца "Георгіем Пераможцам" (тапаграфія св. Глеба). Тады выходзіць, што мы—"старэйшыя браты".

**— З чым канкрэтна вы не былі згодны, калі распрацоўвалася "Пагоня"?**

— Я не быў згодны са статычнай падачай герба. Было шмат крытыкі (я, як сябра камісіі, не выказваўся) і крытыкавалі, дарэчы, у "ЛіМе" стваральнікаў эталона якраз за тое, за што можна было сказаць дзякуй.

Я прапаноўваў свой праект. Выява "Пагоні" на ім паходзіць з Наваградскай пячаткі 1565 г., а сам герб афіцыйна быў зацверджаны ў Статуце 1566 г. Адразу пасля прыняцця пастановы Сойма, калі Статут яшчэ не быў надрукаваны, яны зрабілі пячатку з рэнесансным шчытом. У маім праекце ён, у атачэнні двух зуброў, сімвалізуе тры Адраджэнні Беларусі. Усё гэта — у замкнёнай лініі бесперапыннасці жыцця, бел-чырвона-белай стужцы.

Постаці зуброў уведзены яшчэ й для адметнасці. Дарэчы, зараз, наколькі мне вядома, летувісы працуюць над гербам са шчытатрымальнікамі. Нас зноў выперадзілі. Тая ж самая гісторыя адбылася і з расфарбоўкай збруі. Мы хацелі зрабіць блакітную, але зноў аказаліся ў дурнях.

Вы паглядзіце на Вострую Браму ў Вільні. Там шчыт трымаюць два грыфы. Можна было ўзяць аднаго грыфа і зубра, я ж нічога не прыдумваю. Шчытатрымальнікі ў філасофскім плане — акова герба. Шмат прыстойных краін маюць падобныя гербы: Вялікабрытанія, Канада, Латвія, і г. д.

**— Вы гаворыце аб праекце Вялікага Дзяржаўнага Герба. Што гэта азначае?**

— Гербы падзяляюцца на тры віды: Вялікія, Сярэднія і Малыя. Вялікі Герб мае шчытатрымальнікаў і ўпрыгожванні. Карыстацца ім маюць права Прэзідэнт, Вярхоўны Савет і Прэм'ер-міністр. Міністэрствы карыстаюцца Сярэднім Гербам, а іншыя дзяржаўныя ўстановы — Малым.

Але галоўнае ў гербе — эмблема, якая на шчыце, а ўсё астатняе — "біжутэрыя".

Я думаю, што да канца гэтага стагоддзя ўсё павінна вярнуцца на "свае кругі", і нашым не толькі нацыянальным, але й дзяржаўным сімвалам зноў будзе "Пагоня". Хаця, магчыма, і ў іншай рэдакцыі.

Алесь САВІЦКІ



## СПАДЗЯЮСЯ!..

**Усе падзеі года, які цяпер ўжо ў часе мінулым, прайшоўшым, не чакаў я, не планаваў, і адбываліся яны наўпярок жаданням, марам і спадзяванням.**

**На самым пачатку года ездзіў на пахаванне Івана Іванавіча Стрыкеля, камісара нашага партызанскага атрада ў Варонічы, пад Полацкам. Тут, у Варонічах, ён пражыў чатыры дзесяткі гадоў — другую палову свайго жыцця, і тут у кожнай хаце жывуць яго былыя вучні, цяпер ужо людзі сталага веку і добрай працоўнай славы. Хавалі партызанскага камісара на могілках каля Дубравак, дзе пахавана маці. Ціснўў моцны мароз, церусіўся снег са старых ялін, у промнях сонца залаціста зіхацеў дробненькі і чысценькі, быццам дбайна прасеяны, пясок, што выкінулі рыдлёўкі далакопаў на снегавую бель. Слёзы камісаравых дзяцей — тры дачкі і сын прыехалі на пахаванне бацькі з Масквы, з Мінска Наваполацка і Гомеля, развітальныя словы былых партызанскіх сяброў, пералічыць якіх хапіла ўжо пальцаў адной рукі, словы былых вучняў, што казаліся за хаўтурным сталом, вярэдзяць душу і дагэтуль...**

**У сярэдзіне года пашчасціла прымаць удзел у Міжнароднай сустрэчы памяці ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і прадстаўнікоў міжнародных міратворчых рухаў Расіі, краін СНД і Балтыі і наведаць мемарыял на Паклоннай гары. Побач са мною крочыў тады па каменных плітах Рольф Німц, пастар з Нямеччыны, на суайчыннікаў якога палову стагоддзя таму я глядзеў толькі праз проразь прыцэла аўтамата. Не думаў і не сніў я, юнак-партызан, у віхурныя ваенныя гады, што праз пяцьдзесят гадоў пасля перамогі пачую на Паклоннай гары ў Маскве словы прызнання і захаплення чалавека з Нямеччыны, з той зямлі, якая ў дні вайны была сінонімам гора і бяды.**

**У канцы года, у снежні, святкаваў як бы своеасаблівы юбілей: упершыню, праз палову стагоддзя, страляў з баявой вайсковай зброі. Тады, у сорак пятым у Берліне, аўтамат быў з круглым цяжкім дыскам. Цяпер, на вучэбным стрэльбішчы пад Мінскам, дзе я апынуўся з пісьменніцкім гуртам, які запрасіў на творчую сустрэчу міністр абароны Рэспублікі Беларусь, аўтамат быў з выгнутым куртатым латроннікам — найноўшая сучасная зброя, зусім непадобная на ўзор сорак пятага. Але проразь прыцэла была аднолькавая, і аднолькава закладвала вушы ад грымотных чэргаў. І крыху пазней, калі бралі чарку пад дахам добра ўгрэтай брызентавай армейскай палаткі, раптам ашаломіла нечаканая думка: брызент палаткі ўсё той жа, што і палову стагоддзя таму, і роля кулі ўсё тая ж — вышэй гэтага чалавецтва пакуль што не сягнула ў сваім парыванні да дасканаласці! — і ўсё залежыць ад таго, куды пашле яе чалавек: у драўляную мішэнь, ці ў жывую.**

**У новы год гляджу з надзеяй. Спадзяюся, што ўбачу на паліцах кнігарні сваю новую аповесць-казку для дзяцей, карэктуру якой нядаўна вычытваў, і другі том збору твораў. Спадзяюся, што пабачу свой родны Полацк на Дзвіне, што пакладу палявыя кветкі на магільны пагорак свайго партызанскага камісара. Спадзяюся, што зараблю грошай, каб купіць пачак паперы і стрыжань для ручкі, кошт якіх зрабіўся амаль астранамічны, і нешта на той паперы напішу.**

**Што б ні здарылася, пісьменнік павінен нястомна рабіць сваю справу, бо калі змоўкне літаратура, дык змоўкне і сам чалавек. Спадзяюся, што ўвосень зноў праводжу ўнука і ўнучку на заняткі ў школу і зноў пакладу ў партфелікі побач з падручнікамі буйныя сакавітыя яблыкі якія зноў саспеюць на яблынях, якія сам пасадзіў і выгадаваў і голле якіх падпірае франтон дачнай будыніны, якую таксама быдаваў сам. Спадзяюся, што злаўлю яшчэ аднаго шчупака на спінінг, што ў новым снежні, які заявіцца няўмольна і мудра, змагу паўтарыць добрыя паэтавы словы: "Таварыш, дружа мой! У чарках плешча радасць. Няма найлепшага, як будаваць і жыць!"**

**Спадзяюся на гэта.**

**Вельмі спадзяюся!**

**З надзеяй гляджу на неба і першага ў гісторыі зямлі Беларускай нашага Прэзідэнта! Спадзяюся: пашчасціць яму! Спадзяюся: неба будзе ласкавым да ўсіх нас!**

Віншуем!

# "ЧАЛАВЕК ПАВІНЕН БЫЦЬ ШЧАСЛІВЫ..."

***1 студзеня 1996 года лаўрэату Дзяржаўнай прэміі Беларусі Анатолю КУДРАЎЦУ спаўняецца 60 гадоў.***

***Рэдакцыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" шчыра віншуе юбіляра і жадае Анатолю Паўлавічу і надалей заставацца ў актыўным жыццёвым і творчым страі!***

"Прызнаюся, я даўно палюбіў гэтага пісьменніка, яго мякка-стрыманую і ў той жа час напружаную прозу, назіральную і праніклівую, аб'ектывізавана праўдзівую і маральна завостраную, пяшчотную і патрабавальна строгую, знешне празрыста-простую ўнутрана складаную.

... Проза Анатоля Кудраўца мае такі лад і склад, такі характар, што яна выклікае на суперажыванне чытача ўдумнага, непаспешлівага. Але затое, калі вы ўжо ўчыталіся ў творы пісьменніка, прывыклі да яго сціплай і стрыманай апавядальнай манеры, то ўсё больш і больш пачынаеце адчуваць, якая перад вамі жыццеўмяшчальная і духоўна значная проза, як многа — кранальна і свежа — гаворыць вам аўтар пра жыццё і людзей, расказваючы тую ці іншую жыццёвую гісторыю".

З радасцю падпішуся пад кожным гэтым словам майго незабыўнага друга, чалавека проста дзівосна светлае душы і на зайздрасць многім з нас разумнае галавы Варлена Бечыка з яго артыкула "Святло жыцця", апублікаванага ў 1976 годзе ў часопісе "Полымя", калі ў свет выйшла трэцяя кніжачка Анатоля Кудраўца "Дзень перад святам" (1975). Магу сабе ўявіць, якія словы ён знайшоў бы, калі б паспеў напісаць і пра раман "Сачыненне на вольную тэму" (1985)...

Не адмоўлюся і ад сваіх слоў шчырага захаплення, сказаных мною таксама пасля выхаду ў свет той жа кніжачкі "Дзень перад святам". Ведаю, што гэта ўсё ў лепшым выпадку гучыць "прастадушна-бясхітрасна" для нашых "эўрапейцаў", але менавіта на фоне іхняга "творчага набытку" яшчэ больш пераканана паўтараю: сапраўдная літаратура палоніць душу чытача "...самым простым і самым важным — любоўю да чалавека, разуменнем яго душы і ўменнем высвеціць яе, паказаць чалавека ва ўсёй яго духоўнай патэнцыі, у адным-двух эпізодах раскрыць чалавечы характар у яго шматграннасці".

Перачытаў яго найбольш глыбокія і арыгінальныя апавяданні "Другі варыянт", "Мікола вярнуўся", "Жанчыны", "Дзень перад святам" з тае дваццацігадовае даўнасці кнігі і паўтараю зноў: "Апавяданні А. Кудраўца яшчэ раз сведчаць, што і самая звычайная сітуацыя пад пяром майстра слова, чалавека духоўна і душэўна багатага, можа вельмі шмат сказаць пра жыццё і чалавека.

Галоўнае ў любым творы — асоба самога аўтара".

Пра "сілу і шчасце пісаць праўдзіва і ярка" пісаў Янка Брыль у сваёй прадмове да кнігі А. Кудраўца "Холода в начале весны", выпушчанай у свет на рускай мове ў 1973 годзе ў Маскве выдавецтвам "Молодая гвардия". Менавіта ён, Янка Брыль, самы першы ў нас выказаў "здзіўленне і радасць" на старонках "Літаратуры і мастацтва" (3 студзеня 1969 года), калі на трыццаць другім годзе жыцця (1968) праз восем гадоў пасля публікацыі сваіх першых мініяцюр ("Маладосць", 1960, N 12) Анатоль Кудравец выпусціў у свет сваю першую кніжачку "На зялёнай дарозе". У тым жа 1969 годзе ён жа апублікаваў рэцэнзію "Первый экзамен" на старонках часопіса "Дружба народов".



# У КОЖНАГА СВАЁ СВЯТА

## ГУТАРКА З АЛЕНАЙ ВАСІЛЕВІЧ

**— Алена Сямёнаўна, значная частка вашага жыцця прайшла ў часы, пра якія многія цяпер успамінаюць з настальгіяй. Вы не адносіцеся да гэтых "многіх"?**

— Чаму не адношуся? Адношуся... Бо чаго ж вартае жыццё чалавека, калі ў яго **нічога** не засталося ў мінулым — ні ўцешнага, ні балючага? Нічога не зрабіў, нікому нічога не пакінуў? Тады што ж — жыццё, значыць, прайшло на вей-вецер, збуяла пустазеллем?.. Я асабіста не лічу, што пражыла **такое** жыццё. Іншая справа, **што** шкадаваць, па **чым** плакаць. Што праклінаць і за што быць удзячным жыццю і часу.

...Напярэдадні скасаванага, а пасля зноў узроджанага "Великого Октября" (цяпер ужо пішам яго ў двукоссях) пазваніла мне па тэлефоне былая мая супрацоўніца: "А. С., пойдзем заўтра на дэманстрацыю?"

А я, грэшніца, і ў "добрые старые времена" ніколі не мела ахвоты туды хадзіць. Не любіла з году ў год цягацца праз увесь горад "у шарэнгах", з партрэтамі "вождей" у руках, імчаць дзе подбегам, а дзе гадзінамі таўчыся, як у авечай чарадзе, у якім-небудзь завулку, галёкаць "ура" каля трыбунаў... Карацей кажучы, "ісці на дэманстрацыю" (у 95 годзе!) у мяне і ў думках не было. Да таго ж...

— У мяне заўтра будзе госць. Мой праўнук. Яму споўнілася чатыры гады.

— Праўнук? — Інтанацыя з таго боку провада выдавала: "Таксама мне падзея і свята — праўнук..."

Яно і праўда: жанчына — і праўнукі... Прысуд канчатковы і абскарджанню не падлягае!

(Але калі ён цябе абдымае і цалуе: "Я цябе люблю!.." — Хто табе яшчэ скажа **гэта зараз**?..

Калі ён кажа: "Я — тваё здароўе!" — Які найлепшы доктар выпіша табе больш дзейсныя лекі?..

Дык што — адмовішся ад гэтага раю і пойдзеш у шарэнгах змерзлых пад снегам з дажджом сямідзесяцігадовых "барацьбітоў" спяваць: "Мы наш, мы новый мир построим"?

— А я купіла ўжо кветачкі. Пайду на плошчу Леніна. Пакладу яму...

Ну што ж — у кожнага сваё свята. Не асуджаю, бо разумею яе. Як і самая, гадавалася яна таксама ў сіроцтве. І вучыла яе савецкаая ўлада. І памагала, колькі здолела — і адзеткам-абуткам бясплатным, і харчаваннем. Падручнікі і сшыткі, алоўкі, нават альбомы для малявання і гумавыя сціркі (з зайчанём на блакітным бачку) школа таксама без грошай давала сіротам і дзецям, у каго бацькі былі бедныя... Дзяржава вучыла ў інстытутах — усіх, хто жадаў вучыцца, давала стыпендыю і інтэрнат.

А паспрабуйце сёння адправіць у школу першакласніка! Я не кажу пра дзетак, якія маюць "крутых" бацькоў. Не кажу пра новых беларусаў. Кажу пра тых — ніякіх не "крутых", а звычайных нашых сённяшніх бедных, хто мае працу і працуе сумленна, але канцы з канцамі зводзіць ледзь-ледзь. Вось і ламае галаву ён ці яна, як адправіць дзіця ў школу. А калі іх двое, а як бог даў — і трое?.. Якія мільёны трэба мець! А дзе іх узяць?.. (Па беднасці ў Еўропе 80-ых гадоў на першым месцы была Албанія; у 1995 годзе Беларусь "перахапіла" ў яе гэта "першынства" — такія звесткі падрыхтавала Агенцтва гуманітарных тэхналогій.)

Я неадназначна адношуся да часоў, пра якія пачалі мы нашу гаворку. Часы і гады — самі па сабе — яшчэ нічога не вызначаюць... Усё залежала — заўсёды! — і залежыць ад людзей ці нелюдзяў, якія ўзнікаюць у пэўныя часы-гадзіны і прыходзяць (ці захопліваюць яе) да ўлады. І ўжо тады — ад бога ці ад д'ябла) — твораць яны сваю волю-ўладу над людзьмі. Дзе і як стукне катораму ў галаву...

Хіба ў нас сёння інакшай?

**— Існуе такі выраз: "Прыгожая старасць". Здаецца, гэта пра вас. Чым каштоўныя для вас дзесяцігоддзі сталага вашага жыцця? Што яны прынеслі ў ваш чалавечы і пісьменніцкі досвед?**

— Вашымі вуснамі ды мёд бы піць.. Старасць, дарагая Галіна Анатольеўна, яна і ёсць старасць.. З ёю найлепш трымацца дому. Найлепш таксама пакідаць яе дома, калі ідзеш людзям на вочы... А ўвогуле старасць — як зіма. Зіме папярэднічае восень, лета,вясна. Старасці — сталасць, юнацтва, маленства... Усё ў свой час. ну, а ў часе чаго толькі ні стрэне чалавек, чаго толькі ні пабачыць і ні перажыве! І добрага, і благога... Адзін жыве з даверам, часта наіўным, самападманным. Другі, цвярозы, кіруецца ў жыцці скептычным розумам: "Нікому і нічому не трэба давяраць!.." Для адных існуе жыццё амбіцыйнае. Чаго б ні каштавала, а перамагчы; пераступіць цераз усё магчымае ("Усе сродкі прыдатныя для дасягнення мэты!"), дабіцца, дастаць сваё! Іншыя зжываюць жыццё без "амбіцый", без "перамог", жывучы сваёй, уласцівай ім сутнасцю, якая — па-свойму — дарые ім свае ўзрушэнні і радасці. Яны не так ужо часта



завітваюць у госці, гэтыя радасці і ўзрушэнні, але тым, можа, і даражэйшыя. Усё гэта і нясе ў сабе той змест, стварае сплаў, які і завём мы жыццёвым досведам. На ім, зразумела, грунтуецца і досвед пісьменніцкі. Мой — таксама...

**— Што для вас больш характэрна — адчуваць сябе роўнай сярод многіх, ці трошку звысоку глядзець на наш пісьменніцкі мурашнік?**

— Я належу да тых шчаслівых людзей, якім лягчэй жыць без "амбіцый". Ніколі, напрыклад, не было ў мяне імкнення "заняць пасаду", імкнення кідацца выконваць "сацыянальныя заказы". І тым самым як быццам набліжаць сябе да "пярэдняга краю" поспеху. Не ўмела вынаходзіць і адгуквацца "ў час" на "актуальныя тэмы". (На адной толькі НТР колькі гадоў мясіліся журналісты і пісьменнікі!). Не ўмела "закручваць" сюжэты: каб у чытача — валасы на галаве дыбам! Каб перадінфарктны стан, пакуль дачытае нават да сярэдзіны тваю кніжку! Мне даступнейшы і даражэйшы заўсёды быў унутраны, душэўны стан маіх персанажаў, з якімі я зжываюся, пакуль пішу, з якімі разам радуюся і пакутую...

Я ўвогуле сама па сабе... Бо і "многія" —

Лідзія АРАБЕЙ



# НА ПАРОЗЕ ВЫСАКОСНАГА

Плыве рака часу, несучы на сабе ўсё новыя воды. Праміnуў яшчэ адзін год, пройдзена нялёгкая дарога, і чаго толькі на ёй не сустракалася, здаецца, нішто ўжо цябе не здзівіць, нішто не напалохае. Але жыццё, гэта геніяльны аўтар, не стамляецца ствараць усё новыя і новыя сюжэты, ладзіць павароткі, ад якіх займае дых.

Не паспелі мы нацешыцца незалежнасцю, адраджэннем нашай мовы, культуры, як нам загадалі — "Асадзі назад!" І асадзілі! Паглядзіце, як змарнелі нашы часопісы "Полымя", "Нёман", на іх цяпер глядзіш са шкадаваннем, як на пакрыўджаных дзяцей...

Некалі, у зусім недалёкі час, ва ўсякім разе, на маёй памяці, малапісьменныя генералы ганарыліся: "Мы акадэміяў не канчалі!" Яны з пагардаю ставіліся да тых, хто тыя акадэміі канчаў, а як вялікую сваю заслугу выстаўлялі, што яны з народа, з беднякоў. Па-мойму, і цяпер на культуру, на тых самых акадэмікаў, вучоных ды пісьменнікаў нашы генералы ад палітыкі пазіраюць з пагардаю. Што нам вашы творы, вершыкі ды казачкі, спачатку трэба накарміць людзей!

Што людзей трэба накарміць, то з гэтым ніхто не спрачаецца, а яшчэ лепей, не перашкаджаць людзям, каб яны самі сябе кармілі, не спадзяваліся на нейкага дзядзьку ці бацьку. Але без культуры, без тых вершыкаў ды казачак, нават накормлены народ не будзе народам, а людзі не будуць людзьмі.

Без культуры, літаратуры, без мовы, на якой яны ствараюцца, няма народа, няма дзяржавы. Няўжо і гэтага не разумеюць нашы генералы? Няўжо наша мова гадзіцца толькі для здзеклівых пасажаў у яе ж адрас, якія мы чуем з самых высокіх трыбун? Наша мова, наша культура, літаратура цяпер як жабрачка, што сядзіць у пераходзе з працягнутай рукой. Так і часопісы нашы, каб выжыць — жабруюць у розных спонсараў ды фондаў — падайце бедным пісьменнікам на выжыванне. І сапраўды на выжыванне, бо ганарары ў часопісах сімвалічныя.

Расказваюць, што некалі наш класік Кузьма Чорны хадзіў на базар, каб пачуць ад вясковых кабет свежае народнае слова. Цяпер на Камароўскім базары пачуеш азербайджанскую, армянскую, в'етнамскую і шмат іншых моў, не пачуеш — беларускай.

Мне запомніўся на ўсё жыццё плакат у Гаграх, у Абхазіі. Там над абхазамі, якія аб'явілі галадоўку, дамагаючыся незалежнасці сваёй рэспублікі, вісела палатно, на ім было напісана: "Калі маёй мове суджана памерці заўтра, я згодны памерці сёння!" Ці скажа такое хто-небудзь з нас, беларусаў? Маўчым і хвалімся сваёй талерантнасцю. Маўчым, калі чуем, як з нашай мовы твораць здзек на тэлебачанні — там яе наогул паволі выцясняюць, як твораць здзек на радыё, на шыльдах, што развешаны па горадзе.

Плыве рака часу, жыццё ладзіць новыя сюжэты.

Хвароба падкрадаецца памалу. Спачатку недзе засвярбіць, трошкі пашчыпле, а потым як схопіць, то ўжо і лячыцца позна. Ці не так і з нашай незалежнасцю, з удзелам у калектыўнай бяспецы? Спачатку проста падпісалі сціплую дамову, потым удасканалілі. А далей акажацца — трэба нашых хлопцаў пасылаць на вайну, абараняць чыесьці інтарэсы.

Хвалімся сваёй талерантнасцю.

Ну добра, мы, старэйшыя, сваё аджылі, што змаглі — напісалі, ухапілі нават час і сказалі тое, што не далі б нам сказаць некалі, зарубілі б рэдактары, цэнзары. Але як жыць маладым, таленавітым, якую трэба выстаяць ім чаргу, каб надрукавацца ў "Полымі", такім малым цяпер па аб'ёме?

Спадзявацца хіба на бессмяротнасць нашай мовы, літаратуры? Колькі нішчылі яе чужынцы, колькі нішчылі свае! А яна жыве, не памірае! Наперакор сваім ненавіснікам!

Так і цяпер. Эстрада спявае беларускія песні, мастакі ўваскрашаюць гісторыю сваёй радзімы на палотнах, паэты пішуць вершы, празаікі — раманы і аповесці, народ пасылае сваіх сыноў, дачок — бараніць роднае слова, роднае мастацтва. І яны выплываюць з глыбінь народных — усё новыя і новыя творцы. Дай Бог ім шчасця ў новым, высакосным, годзе!

Паэзія

Анатоль СЫС



# ПЕСНІ ПРА КАХАННЕ

•

А я помню, як мяне хрысцілі,
як па снезе санкі галасілі,
як папа у госці запрасілі,
пілі-елі, потым елі-пілі,
пра мяне прыгожа гаманілі,
хроснага і хросную спаілі,
адхадную бацюшку налілі,
пад дубовай лавай крыж згубілі,
ні мяне, ні крыжа не знайшлі
і шукаць у белы свет пайшлі.

Бацюшка ў царкве,
а маці ў полі,
тата на Дняпры голас сарваў,
а я ў роднай хаце ціха долі
з крыжам, быццам з цацкаю, гуляў.

•

Загубіла мне паэзія жыццё —
палюбіла!
За распусту ды за хмель
моцна біла.

Калі б іншага жана
катавала,
дык, зладзейка, сваю б смерць
прычакала.

Я ж яе, маю жану дарагую,
так люблю,
што па жыцці
ўсё дарую.

Бо не толькі батагом...
мая Міла,
а й за вернасць — мне чалом
яна біла.

Толькі, што гэта кажу
ўсё ў мінулым?
Як жыццё люблю цябе,
як загулы,

што аж брыдка ад любові
гэтай,
і табою, і віном
сагрэтай.

## ЦНАТЛІВЫ КНЯЗЬ

Цнатлівы князь Беларушчыны
па Боскай міласці з нябёс —
князь! — з раю ў пекла быў адпушчаны,
які там князь? — жабрак апушчаны,
з'явіўся з раю...
Вянок прынёс...
з валошак сініх,
на магілу
самазабойцы —
гэта ж грэх:
збіраць па крошках жыцця сілу
і... раскалоць, нібы гарэх.

І Ён быў князь, яго хавалі
галодным. Хоць бы хто паклаў
скарынку хлеба. Не паклалі
у дамавіну. Закапалі,
а ты Вянок яму паклаў.

Нібы ў ладдзе — у дамавіне
твой любы Палуян паплыў
па моры-акіяне сінім
павандраваў — такім і быў.

Туга на сэрцы. Будзе восень.
Валошкі ў жыце ўсё зырчэй.
Зярняты падаюць з калосся,
а слёзы крапаюць з вачэй.

Заплакаў князь, жабрак заплакаў.
Не плач. Бяздзетны і Хрыстос.
Паэзія — сам выбраў — плаха,
а ката з мечам выбраў лёс.

Спявай! Пакуль твой кат на пласе
пляце удаўку з васількоў.
Паэзія цябе не адракласся.
Ёсць час!
Гарлянкай з ёю хлыне твая кроў,
Цнатлівы Князь Прыўкраснай Беларусі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ужо вятры лагодней сталі дзьмуць.
Вясна на носе. З цёплай Ялты гусі
твой светлы дух на крыллях прынясуць.

•

*Ахвярую Анатолю ВЯРЦІНСКАМУ*

Тры мазалі ў мяне. Бог тройцу любіць:
на языку, на сэрцы, на руцэ.
Было: тапіўся ў моры і ў рацэ,
але, відаць, язык мяне загубіць.

Віры ў рацэ, а ў моры топяць хвалі —
салёная ці прэсная вада...
Віры і хвалі смелых пакахалі.
Навошта ім паэтава нуда...

Язык — мой вораг. Мову любіць моцна,
аб гальку гукаў, слоў
нацёр мазоль.
"Цішун табе..." —
матуліна прароцтва —
за песні пра бяду, жуду, пра боль.

Як паміж морам і ракой на шчасце
паміж двух Анатоляў, мама, сядзь.
Вялікі дзякуй,
што вучыла нас не ўкрасці,
па радасці чужой не сумаваць.

Што да бяды, жуды, нуды,
дык — гэта ў вершах.
Хаця... ў паэзіі у кожнага свой слуп.
Я ўсім кажу, што я паэт найпершы,
калі ж папраўдзе: першы жыццялюб!

•

Закалышы дзіця маімі вершамі,
самымі апошнімі і самымі першымі,
але самымі добрымі і самымі лепшымі,
закалышы дзіця маімі вершамі.

## ПАЭТ

Паэт — боская птушка,
яго нельга чапаць,
трэба Хрыста чакаць,
трэба Хрысту ногі цалаваць,
вачыма неба араць,
з любай, як з маці, спаць,
калі слёзы ёсць —
жабраку даць, —
вось якая паэт боская птушка,
як пад галавой нябожчыка падушка,
вось якая паэт птушка боская,
як свечка, як з воска я,
Я? я я я! —
боская птушка,
мяне нельга чапаць,
мне трэба Хрыста чакаць,
Хрысту ногі цалаваць,
вачыма неба араць,
з маці, як з любай спаць,
калі слёзы ёсць — жабраку даць,
вось якая паэт боская птушка,
як пад галавой нябожчыка падушка,
вось якая паэт птушка боская,
як свечка, як з воска я,
Я? я, я, я!

## МАЯ ХАТА БЕЗ СЯБРОЎ — НЕ ХАТА

Мая хата без сяброў — не хата,
хоць ты выйдзі з венаў пусці кроў,
мо паэзія ў самоце вінавата,
што мяне раўнуе да сяброў?

А хоць з птушкай памаўчаць
бяссоннай,
ды хоць старац да мяне б забрыў,
не хапае вашых галасоў мне,
вашых рук, і вашых воч, сябры.

Мая хата — гэта ваша хата,
асвянцілі мы яе слязьмі,
бо паэзія у гэтым вінавата,
так што не прычым зялёны змій.

Вось віно, няхай стаіць хоць скісне,
дакрануся да яго тады,
калі рак на Лысай Гары свісне,
няхай кісне, мне такой бяды.

Дзе ж вы, мае родныя паэты?
Дзе ж вы, мае гора-чытачы?
Хоць ты свае бедныя санеты
нямым зоркам у вакно крычы.

## ПЕСНЯ ПРА КАХАННЕ

Не баюся я смерці,
бо хачу вельмі жыць,
няма сілы памерці,
няма моцы зграшыць.

Ёсць любоў — маё цела,
ёсць каханне — душа,
яна ў рай паляцела,
я яе не змушаў.

Мілы Божа, каханы,
як пражыць без пакут?
Не хачу смерці мамы,
з кім тады буду тут?

З тваім, Божа, каханнем?
Без жанчыны? З табой?
З беларускім паданнем?
З хлебам? З соллю? З вадой?

Бачыш сам: пусты ложак.
Надакучыла мне
спаць з табой, любы Божа.
У мане, у віне.

Цалаваць твае раны,
цалаваць тваю плоць,
быць паэтам абраным,
жвір у вершах малоць.

Быць мужчынам абраным,
скажы, суджана мне?
Ці на ложку каляным
жыццё марна міне?

Даруй, любы мой Божа,
што вярэджу душу,
што абраў бездарожжа,
як грашу, так пішу.

А папраўдзе: як дзеці,
мае вершы растуць,
няма сілы памерці,
бо яны не даюць,

таму нам не каляны
ложак шлюбны. — Як пух!
Мой Мужчына каханы,
Айцец, Сын, Святы Дух!

Проза

ЧАС у горадзе гэтай зімой ідзе супраць гадзіннікавай стрэлкі. Снегу амаль няма, змэнчана чарнеюць дарогі, аніколькі не варожачы ўналецці на багатае чорнае зерне грэчкі. І гэта на вялікі пост перад Калядамі. Пераходзячы з пакоя ў пакой, раптам убачыш маладзік, спынішся, як ад выразнага, уніклівага позірку праз вакно: ён на цябе, ты на яго. І наогул, здзіўляе, таямніча хвалюе, як іншы раз на вуліцы ўвечары хацелася неспадзявана азірнуцца, паглядзець якраз у той бок неба, дзе зіхацела камеяй поўня. Калі яна й хавалася за хмарамі, заўсёды адным позіркам знаходзіш яе ў ейных нават самых далёкіх пакоях. Звычайна з прыцемкамі на вуліцах ужо анікога, можа, каму ў гэтай пустэльні і адкрываўся бог і выпрабоўваў катарага.

Марыя ВАЙЦЯШОНАК

# МЕСЯЧНАЯ КАМЕЯ



## СВЯТОЧНАЕ АПАВЯДАННЕ

— Я сёння цэлы дзень шчыра пасціла і нават да нікога не загаварыла, — звоніць сяброўка Лена. — Але хачу табе расказаць... Аліна ж да мяне прыходзіла ўчора...

Забірае грэшны смех: а ці не высявала яна ўжо сабе ў пасцелю, варожачы, насенне канапель: "Святы Андрэй, дай мне знаць, з кім буду іх ірваць?" Лена паспяхова займалася бізнесам, без грахоў не абыходзілася. Пачуўшы пра маю даўнюю знаёмую Аліну з трыма дзецьмі ды амаль без бацькі, дакляравала аддаць ёй кажушок сваёй дачкі, як кажуць, ахвяравала на ўбогія. Кажушок амаль новы, зазначыла тады крыху ніякавата, няхай бы Аліна прынесла ёй наўзамен варэння ці так чаго свойскага. Аліна жыла з таго, што таргавала на Камароўцы гароднінай, ягадамі, грыбамі. На ўсё лета кідала горад, ехала з дзецьмі ў вёску, у матчыну хату, засявала соткі, запасілася з лесу. Ну, прыходзіла Аліна, добра, але чаму такі ўзрушаны, богабаязны голас у маёй гараджанкі? Яна ж такая справядловая мінчанка, што і вёскі ніколі ў вочы не бачыла. Уяўляецца, як, зайшоўшы ў кватэру, Аліна распранулася не адразу. Доўга звычайна стаіць у парозе, азіраецца па кутках, як на кароткім прыпынку, абы нага да нагі — і ўся ейная аддуха, заўсёды быццам увесь час і дзень, і ноч у доўгай дарозе. Сціпла падцісне вусны, а вочы пільныя, учэпістыя, во, маўляў, як людцы жывуць — паркет, гарнітуры скрозь. Без зайздрасці, з нейкім глыбокім сумам ці то па сабе, ці то па табе, пакаёўцы, на ўсім гатовым, але ніколі не блытаючы свой лёс з чужым. Разуецца, блішчаць шкарпэткі рознага колеру, абы цэлыя — не саромеецца. Доўга маўчыць, галаву набок, прыслухоўваецца да сцен, да рэчаў, як да мелодыі, каб жа не даць фальшу ў гаворцы. Гэта ўжо той чалавек, які доўга сам-насам бывае ў полі, у лесе, на зямлі. Акрыяе, загаворыць толькі тады, калі пачне павольна расхінаць пакункі, даставаць, як з кустоўя ўсё роўна, шклянкі з варэннем: вось чарніцы, маліны, вось грыбы. А ейная дачка Юлечка, самая меншая, адразу пайшла па пакоях. Стук-стук-стук, зазіраючы ва ўсе куткі, быццам шукае дзірку, каб уцячы, як вожык з лесу — стук-стук. Дзякавала, пэўна, за кажушок без уніжэння, брала, як ад бога, маўляў, ён лепей за яе ведае, каму што патрэбней. Папросіць гаспадыня да стала крыху пачаставацца. Пасядуць, і будзе Аліна даваць знакі Юльцы, каб бралася есці. Дзяўчо насцярожана пазірае на піццу, дома ніколі не модзіліся з ежай, кавалак хлеба ў адну руку, кілбасу — у другую, вось і ўвесь сервіс. Яшчэ раз, адыходзячы, паглядзіць Аліна вакол сябе з сумам, як на беразе вялікай стаячай вады, ёй, рухаваму чалавеку, гэта не жызня.

— Але ўсё гэта не галоўнае... — ужо амаль жалілася Лена. — Раніцай б'ю на патэльню ейныя яйкі — сапсаваныя! Грыбы праз ноч паплылі на падлогу — слоік, аказалася, быў пабіты... Муж сеў піць чай... паклала яму Аліінай маліны. Ну і нясмачнае ж тваё варэнне, кажа. А я ўжо маўчу... Усё, каб ты ведала, такое на смак не нашае...

Сэрца стоілася, пачуўшы так блізка знак боскай кары, як перад відавочным здарэннем: ад Аліны няволле нічога браць узамен, тым больш перад Калядамі — не спажывеш, не разгавеешся, не задапаможышся ейным. Даць чыстай рукой, шчыра, як пакласці на ахвярнік у храме... А выдавалася, што па-гэтым смутным часе ў горадзе аніякія прыкметы не збываюцца, ніколі не спраўдзіцца добры сон і грэху ні на каго няма. Нарэшце-такі адчыніліся, бы ад ветру, гарадскія вароты, упусціўшы да людзей сівых чараўнікоў, варажбітак, красналюдкаў. Дзеўкі, спахапіўшыся, пякуць какорку на адной солі, ядуць яе перад ноччу, кладучыся спаць, каб прыйшоў у сне жаніх, падаў сасмяглай нявесце вады. Сеялі каноплі ў пасцелю. Раніцай, на ўскрайку горада, дзе яшчэ жылі па-вясковаму, сваёй хатай, прачнуўшыся, гаспадар ішоў у хляўчук, падымаў на ногі з начы казу ці свінчо, паварочваў галавой да варот, кратаў лапату, граблі, абы з месца зрушыць, мяшаў такое-сякое зерне, насенне, каб павярнуць усё на спрыяючае лета. Бо дзень ужо пабольшаў, як кажуць, на казіны скок. На таго, хто пасціўся, каіўся, спавядаў свае грахі, накладалася эпіцімія з благачынных спраў і нават пазбаўлення волі, каб чалавек мог пераадолець свае благія звычкі. Ружанцам блішчалі зоркі, варожачы на мароз. Нарэшце, зіма знялася з белага гнязда.

Апошняй у адчыненыя гарадскія вароты ўвойдзе Аліна, крыху кульгаючы, з дзяцінства сталася, маці не дагледзела, упусціла з рук, нага зраслася, як дрэўца. Ніхто не заўважаў ейнай знявечанасці — рэдкая прыгажосць сляпіла вочы і мужчын і жанчын. Яна цягнула на сабе цялежку з гароднінай, ягадамі, грыбамі — перад гадавым святам звычайна ўдалы торг. Паліто на ёй старое, вясковага крою, недапасаванае, толькі што вяроўкай не падперазаўшыся, боты гумовікі па такой слабай зіме, хустка-крыпанка — так звычайна ідзе вясковы чалавек з хаты ў поле, у лес, да работы. Яна перавезла сюды, у горад, разам з сваёй цяжкай покладдзю свае строі, свае парадкі. Ні на кога не звяртае ўвагі, ідзе павольна, вачыма перад сабой, на дарогу, як цёмным лесам, каб аглобляй не зачапіцца за дрэва, за нізкі сук, галаву паспець прыгнуць. Перабірае лейцы ў руках, кіруецца, раздумляючыся... Мужу, бачыш, не падабаецца ейная работа, заве яе шпікулянткай, свекрыві ў вёсцы таксама яна непанараўная, кожны раз упікне пры сустрэчы, маўляў, тарговля — нетрудавыя даходы. А што яна — перапрадае?! Такія ласі сядзяць у камерцыйных будках, яны, бачыш, у законе, а яна, з буракамі, з бульбай — шпікулянтка?! Другая маладая баба і ў бізнес і, як той казаў, "пад бізнес", ці грэх, ці не... Скрыпіць левае кола, каб як дацягнуцца хаця да Камароўкі. Сёння будзе ўдалы торг. Але што гэтыя гараджане ведаюць пра сапраўдны смак, пах свойскіх ягад, грыбоў, увесь час седзячы на крамным...

У вёсцы Аліне не вельмі спагадаюць, маўляў, надта ж сквапная: жыве ў горадзе і соткі матчыны засявае. Ды каб жа яна сама спажыла тое, што вырасце, як яны кажуць, гэтая шпікулянтка. Надта нязвыкла вёсцы, далёкай ад горада, зразумець, што можна прадаць тое-сёе з зямлі, мець дабаўку да пенсіі. Бы яно табе крэўнае тое, што народзіцца на сваёй спрадвечнай дзялцы, старыя людзі ганьбавалі таргаваць. Калі хто крычыць на вуліцы, то гэта ўжо ў Алінін адрас. Возьме каня, дзень робіць, а людзі: назаўтра яго на лісіцы ў звярынец здалі, гэтак уездзіла скаціну. І ніхто адзін аднаму не ўспомніць, што даўно меліся таго старога каня збываць. Усе пры калгасе, а яна ўжо тут як прымак, як прысцябай кабыле хвост. Стараецца ўхапіць, спарадкавацца, аж тэтар бярэ, на яе гледзячы. Парушаецца даўнейшы вясковы рытм, ім пары хопіць, гэты жаліцца — хворы, той — бы пры смерці, але кожны, злуецца Аліна, да глыбокай старасці дакалышыцца, жывучы абы дзень да вечара. Ты мае грыбы сабрала, сапе суседка, сустрэўшы на вуліцы. Пакуль яна каторая карову выгнала, пакуль нашлэпалася, людзей зводзячы, па вёсцы, Аліна ўжо ў лесе, адна зязюлька яе перайmae. Едзе ў лес з дзецьмі на ровары. Як можна размінуцца з грыбамі, калі іх як касой касі, ды ўсё дармавое! Назад цягнецца, абчапіўшыся кашамі, вёдрамі, сабака з таго канца вёскі не пазнаў — укусіў за хворую нагу. "Сваіх не чапае, а ты прыехала тут!" — накрычала й гаспадыня. А сама з-за свету, нядаўна пабудаваўшыся. "Гультайка! Во такія грудзі, а малака ані кроплі пасля родаў..." — падумала Аліна памсліва з вялікай злосці і супакоілася. Шмат у вёсцы новых хат, наезджых людзей. Зойдзецца, ідучы з ягад, на могілкі, адразу за возерам. Такія блізкія твары на здымках на помніках, такія родныя, што і дамоў ісці не хочацца. Цвіце жасмін, спакой, раскоша, як у вёсцы калісьці, толькі дзікія пчолы лётаюць, гудуць. Тут памятаюць ейных дзядоў і прадзедаў. Тут і не пытаючыся, усе ведаюць, што замуж ейны ў горадзе не ўдаўся. Мужык п'е, гуляе, прыйшоў неяк "з танцаў", кажучы па-вясковаму, не пусціла начаваць, да суседзей прасіўся. На рабоце яе скарацілі, добра што хоць далі групу, ідзе такая-сякая пенсія па інваліднасці. Жывым не пажалішся, што збіраецца кідаць мужыка, яе ж і абвінавацяць... Возера поўнае, як вочка, вада чыстая, відаць, як вялікая рыба ходзіць, гуляючы. Вёска на тым беразе, пасачкам паміж небам і вадой. Няма калі стаяць любавацца, тады толькі і нагледзелася на гэтую прыгажосць, калі яшчэ, жывучы ў вёсцы, радоўку адбывала за карову...

Людзі абселі, ягады абселі, — ужо ёсць чарніцы. Усё кідае, ляціць у Царкоўе, найбліжэйшы лес, там можна на месцы вядро сабраць, як вады зачэрпнуць. Па кавалку хлеба з саланінай у хустцы — дапаясніцы, чатыры крыжыкі на зямлю перад лесам, каб з гадыняй размінуцца. Цвіркуны гарачым прысакам пад нагамі. Спякота, упаўдні лес душкуецца, цякуць, як са свечак, смолы, пахне лампадным алеем. За дзень даспяваюць ягады ў самых цёмных кутках, схаваных ад сонца, ад людзей, — птушыныя ласункі. Гадыні, разамлеўшы, ляжаць кружалкамі. Сіпла азавецца каторая з кустоўя, а такі ж якраз тут ягаднік харошы, лісту не відаць за ягадамі. Сляпні абступяць ейны маладзенькі табун — дзе там абараняцца, трэба й назбіраць з коптарам і наесціся ў лесе, каб дома не хацелася ўкрасці з кошыка — ягады на продаж. Але ёсць такая хвіліна ўпаўдні, калі лес зміръіць чалавека са зверам, палягуць у адзін бок галовамі, паснуць, скруціўшыся, і страх адляціць ад іх шэрай птушкай на высокае дрэва ў дупло. Кідаюцца ноччу малыя ў ложку, віўкаюць, снючы гадыню, смыліць на руках, на твары ейны нерухомы, пільны погляд. "Дзеці, уставайце... сонца высока... вецер ужо расу абтрос..." — будзіць Аліна. Во каб даў бог дождж! Тады ягады пахаваюцца, там-сям таямніча бліснe вочка красналюдка... Куляюцца дзеці з ложка, ножкі нягнуткія, як калкі.

Ніколі не купляю чарніцы на кірмашы, яны мяне смажаць, гэтыя чорныя ягады і майго дзяцінства, солана ў роце ад поту, ад слёз. Вусцішна есці, бы яны сабраны ў цёмным ягадніку на кінутых могілках. А варэнне, калі пачастуе Аліна, хоць ты на куце стаў, пад абразамі, дзеля прычасця — такое яно дарагое, з такіх дарагіх да болю мясцін...

Чарніцы, потым маліны, ягады, як сухоты — нічога не баліць, а чалавек на іх хварэе. А тут ужо і бульбу трэба капаць, сусед барозны разагнаў за бутэльку. Сама ізноў у лес, па грыбы, адна, дзяцей адправіла ў горад да бацькі, да школы. Прыедзе на сокавы завод здаваць, запозніцца: ну, людзінка, ну прыміце грыбы, маю дзяцей малых трое, паспагадайце. За другім разам няма чаго зманіць, нялоўка жаліцца, тады ідзе ўнаначкі да сяброўкі, каб раніцай першай быць у чарзе. Падхопіцца ноччу — абразы, бачыць, не на тым месцы, не пазнае, дзе заначавала. Чуе праз ноч, праз лес, праз Царкоўе і Забалацце, як людзі смяюцца ў вёсцы несцішоным смехам: жарт, бульбу кінула, не спарадкавала, зелянее на сонцы, сама бадзяецца па горадзе з грыбамі! Папацёмках, калі ўсе паснулі, крадучыся, ішла на соткі, на каленьках выбірала бульбу. Ды раптам узышла поўня, бульба ляжыць белая, відаць добра. Дапаўначы перагляталіся з той поўняй, як змоўшчыцы. Смяялася сама сабе, цешылася, — вось і дзень надтачыла, залатала, ніхто не пазнае, як яно было. Раніцай усе беглі глядзець, хто толькі быў на хаду, дзівіліся — чыстае бульбянішча, пэўна, чэрці ёй дапамагаюць! Усё сабрала, пасеяла лубін на заворку. Прыехала ў горад — дома непарадкі: адно дзіця згубіла акуляры, другое прапусціла ўрок музыкі, трэцяе, самае большае — грыўку адрэзала. Вось табе і хвалёныя дзеці, як новая настаўніца казала: такія яны прыхілкія, такія ліпкія, што ўжо там за бацькі, дзівілася?! Строгая Аліна матка, а ў вёсцы лічаць — благая, маўляў, малыя за работай свету не бачаць.

І мужык той, бы кот, шусь! праз парог, пад ногі выслізнуў, як толькі дзверы ў кватэру адчыніла.

— Мой запатрабаваў, каб спраўку ўзяла — будзе на развод падаваць... — сказала Аліна замест прывітання.

З самага ранння зайшла да мяне, бы гэта начная бяда, з начы сталася, каб далучыліся да ейнага гора, прыйшлі ў хату. Як па нябожчыку наказала. Стаіць у парозе, вочы падняла ўгару, стрымліваючы слёзы. Набегла аж пад вечка, глянула перад сабой — перакуліліся вёдры, плача не хаваючыся. Не, развод яна яму не дасць, маўляў, няхай будзе мужык, які ёсць, дзеля людзей, дзеля вёскі. Толькі мелася пажаліцца адной жанчыне, тая ўжо, можна сказаць, пры смерці была, — назаўтра ўся вёска галавой ківала, маўляў, сама вінаватая. Не, няхай ужо мужычок выбачае. Кідаецца ў хітрыкі, смяецца з сябе: спраўку дасць, калі той падлогу ў кватэры пафарбуе. Дык жа зіма на дварэ?! Яму будзе лета, і яшчэ лета, ён ніколі не адважыцца што-небудзь зрабіць у сям'і, адказвае. І дзеці дубка пасталі: ты, мама, замуж ішла, нас не было, — трэба было глядзець, а цяпер — жыві. Дасталася Аліна і да варажбіткі. Насядае на мужа твая знаёмая, кажа, яны разам працуюць. Адкуль? З Калодзішчаў! Не па любасці сышлася, ад зайздрасці, што ты ў пары. Грошы тая запрасіла за нагаворнае зелле немалыя, яно сабе. А яшчэ трэба шэсць дзесяткаў яек, на могілкі чарцей карміць. І шэсць метраў палатна, любой матэрыі, бо чэрці ўсё роўна яго ў балота завалакуць. Тады падробіць так, каб у яго, брыдка казаць, ...не стаяў. Начорта такі каму, адказала Аліна. Не даспадобы ёй старая, мала што ўгадала. "Усё ведаю, але гавару мала" — паўтарае і маўчыць. Аддала грошы, каб варажбітка не думала, што яна ёй павінна, зелле і сама п'е і мужыку ў кампот падлівае. Няма аніякага пазнатку — муж звер зверам: "Што ты такая вясёлая, глядзі, каб не галасіла... Не лашчыся, я яшчэ зарплату не атрымаў" — і ўся ягоная гаворка. Тады яна адважылася, ішла да яго на работу. Не, не жаліцца, вядома. Хто чужы збоку паверыць, што мужык ейны п'яніца? Ён жа не валяецца. Другі ўжо пад сталом у бяседзе, а ён яшчэ сядзіць, бо конская доза патрэбна, каб адужаць. Ішла пагаварыць. Што дома — толькі свара і свара, там, на людзях, можа, хоць стрымаецца. Дабірала час, апранала абавязкова што-небудзь даўгое, лічыла, надта па модзе, ішла павольна, погляд паверх галоў, як пастыр у браме з кіем. Муляла ўсю дарогу словы сухімі, жорсткімі вуснамі, рыхтавалася. Рэдкая хвіліна, калі яна "пасціла" сваю сям'ю. Дзень у дзень — Камароўка.

Заедзе на кірмаш, не спаўшы, не еўшы, сядзіць, разглядаецца, ужо яна і разгаварылася, ужо й засмяялася. "Во Камароўка мяне й адкалыхала..." — скажа сама да сябе. Малады мужчына спыніўся насупраць.

— А я тут учора буракі купляў! — стаіць, смяецца ўзрадавана.

Жонка пацягнула за рукаво, той, схамянуўшыся, адышоўся. І невядома, ці дасць сабе рады здагадацца, чаму спыніўся, гэткая ж падзея — ён тут буракі купляў!

(Працяг на стар. 12)

Уладзімір ЮРЭВІЧ



# ПІСАЦЬ НА ДЗЕНЬ БЯГУЧЫ І НАДОЎГА...

**Калі прыгадаць год, што адышоў, дык у літаратуры ён не быў надта ўрадлівым — для славеснай творчасці як бы засушлівы. Спакваля страчвае наша кнігадрукаванне свае паўнацэнныя магчымасці друкаваць створанае пісьменнікамі ўчас і значнымі тыражамі. Візітная картка Беларусі пацямнела ў літаратуры — не тая папера, не тыя фарбы, што былі яшчэ якіх пяць-шэсць гадоў назад. І не той, у выніку, творчы імпэт у людзей, што пішуць, — у пісьменнікаў. Таму што і наш брат, з маладзейшых, заняўся камерцыяй. А камерцыя, гандаль і творчасць, славеснасць у адным гняздзе не месцяцца.**

**І ўсё ж... Літаратура мастацкая прыцішыла свой крок, а гэта тоіць у сабе зніжэнне цікавасці да мастацтва, народжанага словам. Знізілася ўвага школьнікаў да літаратуры, да чытання наогул. Кнігу ў нашым штодзённым бюджэце часу выцесніла тэлебачанне, радыё, а гэтыя сродкі масавай інфармацыі не могуць замяніць галоўнага — далучэння школьніка да непасрэднага занятку літаратурай. Школьныя бібліятэкі апынуліся на краі знікнення, бо школа не мае сродкаў набываць творы мастацкай літаратуры, ледзь хапае грошай на падручнікі і абавязковы кніжны мінімум.**

**Ці не таму і так дынамічна ўзнялася ўгару крывая росту дзіцячых і падлеткавых правапарушэнняў, злачынстваў?! Выхаваўчая роля літаратуры падае ў агульным педагагічным працэсе, а дададзім сюды змяншэнне наведвання школьнікамі тэатра і кіно — паследствы гэтага непрадказальныя.**

**Да таго ж усё меншае сярод пісьменнікаў тых "самаахвярнікаў", якія намагаюцца ствараць кнігі для дзяцей, асабліва навукова-пазнавальнага характару, адпаведныя сённяшняму ўзроўню ўспрымання, сучаснаму кантыніуму ў прасторы і часе да пунктаў дзіцячай і юначай свядомасці, што знаходзіцца на "галодным пайку" судакранання з грамадствам, поўным невытлумачальных нават для дарослага чалавека свядомых катэгорый. Прыбралі са школьных праграм асновы грамадазнаўства, скасавалі піянерскія і камсамольскія школьныя арганізацыі, звялі да мінімуму (асабліва ў сельскай мясцовасці) тэхнічную і мастацкую самадзейнасць школьнікаў, скасавалі летнія аздараўленчыя і пазашкольна-забаўляльныя лагеры... А чым замянілі? Па сутнасці, нічым.**

**Перад мастацкай літаратурай, асабліва ў яе навукова-папулярным накірунку паўстала задача запаўнення пазнавальна-забаўляльнага накірунку. Патрэбна цікавая гістарычна-краязнаўчая літаратура, зарыентаваная да агульнавыхаваўчых задач выхавання падрастаючага пакалення. Знікла ўсё гэта, затое на кожным кроку "снікерсы" ды "бананы"...**

**Адыходзячы год пакінуў і добры след. Новы творчы разгон бярэ адзіны для дзяцей школьнага ўзросту часопіс "Першацвет" — першая прыступка ў літаратурную творчасць (толькі б варта запрашаць на гэтую прыступку гарадскіх школьнікаў!) Ды, можа, дадаць яшчэ да "Першацвета" навукова-папулярны часопіс для іх, накшталт "Юнага тэхніка", "Хачу ўсё ведаць", "Мой камп'ютэр". Заняць трэба школьнікаў даступнымі для іх успрымання дапаможнікамі з розных галін практычнага жыцця. Мы ж нездарма ўсталявалі літаратурную прэмію імя Янкі Купалы за лепшую дзіцячую і юначую кнігу. Хацелася б, каб яна прысуджалася за сапраўдныя адкрыцці ў плане стварэння шырокага кола мастацкага чытання для дзяцей.**

**Час і прастора ў прыродзе паасобку не існуюць. Так і ў мастацкім творы павінна паўставаць гэтае адзінства, судакрананне. Значным выглядае гэтае суадзінства ў выдадзенай сёлета кнізе Пятра Сабіны "Плач вады". Яна, мне здаецца, аднолькава захоплена будзе чытацца дзецьмі і юнакамі, пакідаючы ў душы зайздроснае жаданне абараніць прыроду ад нелюдзяў. Час і прастора паяднаны, як паяднаны ў чалавеку розныя часавыя і прасторавыя крытэрыі. Кніга пісьменніцкая больш жыве, калі напісана надоўга.**

# НЯХАЙ ЖЫВЕ АМАТАРСТВА!

*Імяніны будзем правіць,*
*Галубка мы будзем славіць...*
З фестывальнай прыпеўкі.

"Не так многа ў нас людзей, якімі варта ганарыцца, якія могуць сваім талентам падымаць чалавечы дух". Гэтыя словы належаць мэру горада, дзе праходзіў Рэспубліканскі фестываль аматарскіх тэатраў. А месцам яго правядзення на гэты раз стала радзіма Уладзіслава Галубка — баранавіцкая зямля.

Што Галубок менавіта з тых сыноў Беларусі, якімі трэба ганарыцца, у Баранавічах не сумняваўся, здаецца, ніхто. Сведчаннем таму — сама арганізацыя фэсту, стаўленне да гасцей, клопат не толькі пра форму, але і пра змест усіх складнікаў вялікага і адказнага мерапрыемства. А прыняць, размясціць, накарміць давялося звыш 350 чалавек з усіх абласцей рэспублікі і замежжа. З прывезеных на конкурс спектакляў 4 — па Галубку: "Пісаравы імяніны" (Слуцк), "Суд" (Пінск), "Белы вянок" (Драгічын), "Грошы альбо каханне" (Асіповічы). Натуральна, што ўвасабленне спадчыны "бацькі беларускага тэатра" на аматарскай сцэне прыцягнула пільную ўвагу журы. Вось чаму не прайшоў незаўважным нават маленькі абразок, пастаўлены сіламі ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці са станцыі Лясное (там у сям'і чыгуначніка і нарадзіўся Галубок).

Першы з названых, а таксама "Дагарэла свечачка..." студэнцкага тэатра універсітэта культуры (у галоўнай ролі—Г. Бальчэўская) ішлі па-за конкурсам. На жаль, не змог прыехаць на фестываль аўтар п'есы А. Петрашкевіч. Госці з Францыі, Расіі, Украіны таксама былі адзначаны спецыяльнымі прызамі.

На творчай лабараторыі рэжысёраў старшыня журы, доктар мастацтвазнаўства, прафесар А. Сабалеўскі шчыра прызнаўся, што раней ён не любіў аматарскага мастацтва — за капіраванне прафесійнага тэатра і непазбежную другаснасць. "Прарыў" адбыўся ў 80-ыя гады, і многія з сучасных калектываў, адзначыў ён, сёння імкнуцца знайсці сваё аблічча, сваю нішу ў тэатральным мастацтве. Праўда, спекуляцыя на фальклоры тыпу "а ля" і цяпер яшчэ падчас мае месца.

Як на мой погляд, дык "спекуляцыя" — слова замоцнае ў дачыненні да маладых аматарскіх калектываў (міністр культуры А. Бутэвіч назваў іх "малалеткамі"). Яны яшчэ не паспелі вылузацца з пялюшак мастацкай самадзейнасці і спрошчана разумеюць народнасць — на ўзроўні знешняга антуражу (чым грашыць, да слова кажучы, і галоўны пастаноўшчык фестывальнай дзеі М. Макарцоў — пры ўсёй яго стараннасці і энтузіязме). Мне падалося, што і ў спектаклях, і ў іншых відовішчах замнога вазоў, печаў, грабляў, косаў, лапцей — усяго таго, што даўно стала сцэнаграфічным штампам. Згадваецца, як пры адкрыцці ў Доме культуры спатыкаліся на аглоблях вазоў пекныя пары ў бальных касцюмах з Баранавіцкага тэатра драмы. Мне падаўся гэты эпізод сімвалічным. Хаця, безумоўна, фальклор і народныя таленты былі і будуць апорай аматарскага тэатра. Як лічыць старэйшы з нашых рэжысёраў, член журы В. Ермаловіч, атрыбутыкі не трэба пазбягаць. Галоўнае, каб у лапці не абувалі душу беларуса, каб паказвалі яе не прымітыўнай, а такой, якая яна ёсць, — чыстай і высакароднай.

**Бліц-інтэрв'ю з Валянцінам Ермаловічам.**

— Пэўна, вам давялося ўдзельнічаць у многіх такога роду фестывалях. У чым адрозненне гэтага, баранавіцкага?

— Ён больш разнастайны па жанрах, па характары пастановак, па сцэнічных формах, часцей сустракаецца элемент умоўнасці. Упершыню я пабачыў такі цікавы калектыў, як "Жывая планета" Мінскага палаца "Юнацтва". Калі гавораць пра неабходнасць папярэдняга адбору спектакляў, то тут я не згодны: такім адборам можна загубіць новае. А першаасновай была і будзе драматургія, сам твор, які трэба спасцігнуць, раскрыць з дапамогай акцёраў.

Было і застаецца досыць вострым пытанне рэпертуару для народных тэатраў, у ім мне бачыцца некалькі аспектаў. Першы — чыста псіхалагічны; не так мала ў нас рускамоўных калектываў, якія, папросту кажучы, не там шукаюць. Па-другое, рэжысёры з абласцей не вельмі арыентуюцца ў сучаснай беларускай драматургіі, ні рукапісы, ні зборнікі п'ес часта да іх не даходзяць (як не дайшоў і прывезены ў Баранавічы зборнік "Сінязорка" — яго раздалі чамусьці артыстам). Метадыстка Гомельскага цэнтра народнай творчасці А. П'янкова наракала на адсутнасць сувязі з рэспубліканскімі адпаведнага профілю ўстановамі, а значыць — і інфармацыі, на тое, што страчана традыцыя праводзіць творчыя сустрэчы рэжысёраў. Момант арганізацыйнай недапрацоўкі быў нават на фестывалі: не ўсе дзіцячыя калектывы горада ведалі пра магчымасць удзелу ў ім і таму засталіся збоку, толькі ў ролі гледачоў.

Чатыры рэпертуарныя накірункі адзначыў у сваім выступленні намеснік Брэсцкага АНМЦ В. Гуляеў. Гэта 1) класіка ("нам аддалі і Чарота, і Гарэцкага, і Галубка, і Макаёнка, і Дударава амаль што"); 2) спектаклі з прафесійнай сцэны — руская, замежная, савецкая класіка; 3) нестарэючы тэатральны жанр — казкі; 4) п'есы мясцовых аўтараў. Пра работу над п'есай драматурга М. Арахоўскага "Машэка" расказала Н. Кісялёва з Бярозы.

Прыемна адзначыць, што аматарскі рэпертуар у апошні час пашыраецца. Навапалацкі народны тэатр паставіў п'есу І. Масляніцынай "Крыж Ефрасінні Полацкай", Рагачоўскі — "Салгалі богу, салгалі" А. Ждана, Ваўкавыскі — "Баба Яга і іншапланецяне" М. Казачонка. Не састарэла і "гарэзлівая камедыя" А. Дзялендзіка "Амазонкі", якую ўвасобіў тэатр Баранавіцкага ДК. Хтосьці своечасова згадаў пра тое, што неўзабаве мы адзначым 100-годдзе К. Крапівы, і не варта адмаўляцца ад яго багатай камедыйнай спадчыны.



*Свята пачынаецца...*



*"Пісаравы імяніны" У. Галубка ў пастаноўцы Слуцкага народнага тэатра*

Паказальна, што на конкурс па драматургіі, які праводзіла нядаўна Міністэрства культуры, было пададзена звыш 40 п'ес. І хоць узровень большасці з іх невысокі, тым не менш, сам факт сведчыць пра жывучасць гэтага роду літаратуры. Іншая справа, як лепшыя творы дойдуць ды глыбінкі і ці дойдуць увогуле, бо выпадак — асабістае знаёмства рэжысёра і аўтара — дасюль застаецца ці не асноўным фактарам рэпертуарнай палітыкі як зверху, так і знізу.

Спектаклі гасцей — трупы "Заўтра вясна" (Францыя) і тэатра-студыі "Чарадзейка" (Днепрапятроўск) — мы глядзелі ў трэці, апошні фестывальны дзень. А знаёмства з гэтымі калектывамі адбылося напярэдадні, у Доме мастацтва, дзе з дапамогай фірмы "Папялушка" праходзіла імпрэза ў форме вялікасвецкага балю. У атачэнні пышных сукенак, аголеных плеч і разадзетага баранавіцкага бамонду ніякавата сябе адчувала і наша стракатая, па-зімоваму ўцепленая дэлегацыя, і персанажы асабліва Бекета са спектакля французаў "У чаканні Гадо". Уявіце сабе змарнелага бамжа, які выпадкова трапіў, скажам, на сталічную прэзентацыю...

Днепрапятроўцы здолелі зарыентавацца і памянялі ўрывак з містэрыі пра Жану Д'Арк на лірычныя сцэны з вершамі на дзвюх мовах і ўрыўкамі з Шэкспіра. З кіраўніком тэатра-студыі я не прамінула паразмаўляць.

**Бліц-інтэрв'ю з Алегам Кліменцьевым.**

— Вы не шкадуеце, што прыехалі на гэты фестываль?

— Наадварот, мы тут сябе людзьмі адчулі. Нас гасцінна прынялі, ва ўсім стараліся дапамагчы. Карыстаючыся выпадкам, хачу выказаць падзяку нашаму куратару Алегу Скарыне.

— Колькі слоў — дзеля знаёмства — пра



*Выступаюць артысты з Днепрапятроўска*

ваш калектыў.

— Рускі драматычны гурток быў заснаваны ў нашым горадзе ў 1898 годзе. У розных формах ён праіснаваў да нашых дзён, а тэатр-студыя "Чарадзейка" ўзнік на яго аснове ў 1986 годзе. Асаблівасцю нашага калектыву з'яўляецца тое, што ўдзельнікі яго прыходзяць сюды з дзецьмі і растуць разам з ім. І. Герасіменка, напрыклад, выканаўца ролі Жаны Д'Арк, прыйшла да нас у другім класе. У складзе калектыву некалькі сямейных пар, і аднойчы на вечарыне сям'і ў нас узнікла ідэя адкрыць тэатр-кафэ, што мы і зрабілі. Мы ўдзельнічалі ў многіх аматарскіх усесаюзных фестывалях і самі праводзілі іх.

— Які з конкурсных спектакляў вам найбольш спадабаўся?

— Мне бліжэй па духу "Жывая планета" з іх "Беларускімі вадэвілямі". Моцны, згуртаваны ансамбль, у іх няма таго, што мы на Украіне завём "шараварным мастацтвам", а ёсць праўда, шчырасць, малады напор.

У насычанай праграме тэатральнага свята знайшлося месца і для адкрыцця выставы, прысвечанай славутаму земляку — акцёру, рэжысёру, мастаку, музыканту, пісьменніку, і для выязных спектакляў, і для наведвання станцыі Лясное, дзе былі ўскладзены кветкі да мемарыяльнага каменя Галубка і дзе нас цёпла прыняла мясцовая сярэдняя школа (з-за блізкага суседства дзвюх воінскіх часцей яна даўно ўжо лічыцца рускай, але каранёў сваіх не адцуралася).

Трэба сказаць, што ў творчым конкурсе прымалі ўдзел і дзіцячыя тэатральныя калектывы. Госці з Калугі паказалі сваю версію "Голага караля", тэатр-студыя мясцовага Палаца школьнікаў атрымаў 3-ці прыз за "Мікітаў лапаць" па М. Чароту. Кампетэнтнае журы (а ў ім такія вядомыя знаўцы і практыкі тэатра, як С. Лаўшук, Т. Гаробчанка, Р. Баравік і іншыя) высока ацаніла і пазаконкурсны спектакль па матывах П. Бажова "Каменная кветка" Баранавіцкага ГДК (кіраўнік — Г. Каралёва). У адрозненне ад дарослай залы, у дзіцячай, кажуць, яблыку не было дзе ўпасці...

**Бліц-інтэрв'ю з Галінай Каралёвай.**

— Кажуць, што фестываль — вялікая школа для кожнага калектыву. Якія "ўрокі" вынеслі вы з гэтай першай для вас школы?

— Для мяне гэта сапраўды першы фестываль; я працую ў ГДК з 1990 года і лічуся маладым рэжысёрам. Апошні на часе фестываль, у якім давялося ўдзельнічаць нашаму тэатру, — гэта "Рампа дружбы" (Гродна). Там мы паказалі "Конскі партрэт" Л. Родзевіча, узялі прыз за лепшую жаночую ролю. Пра гэткае ж свята ў Рагачове мы ўвогуле не ведалі, таму для нас вельмі важна было ўдзельнічаць у галубкоўскіх "гасцінах". На падрыхтоўку часу мелі няшмат, бо позна даведаліся пра ўмовы конкурсу. Мы зрабілі свае "Амазонкі" літаральна за паўтара месяцы, надзвычай хваляваліся, а тут яшчэ святло прападала на сцэне...

— Хтосьці з журы прапанаваў адзначыць вас прызам "за мужнасць у час спектакля"...

— Праграму-мінімум мы, лічу, выканалі, ды і гледачы, калі вы помніце, прымалі нас няблага. Плюс дыплом за лепшую сцэнаграфію і музычнае афармленне. Мы бліжэй пазнаёміліся з аўтарам п'есы А. Дзялендзікам, нас запрасілі на Усерасійскі дзіцячы фестываль "Калужскія канікулы"...

— Гэта ўсё плюсы. А мінусы?

— Адзін з мінусаў аб'ектыўны — зіма. Пасля вулічных мерапрыемстваў захварэла мо палова ўдзельнікаў. Не ўсё было прадумана ў пастановачнай частцы свята. У нашым горадзе шмат вопытных рэжысёраў і арганізатараў, якія не раз на добрым узроўні праводзілі "Баранавіцкую вясну". Належнага даверу ім чамусьці не аказалі. А ўвогуле — добра, што гэты фестываль адбыўся...

Фестываль сапраўды адбыўся. Пакуль падводзіліся вынікі і пацяшаў публіку "Фэст", пакуль уручаліся прызы і падарункі, пакуль адбывалася цырымонія перадачы эстафеты з Баранавічаў у Глыбокае, на радзіму яшчэ аднаго пачынальніка беларускага тэатра — Ігната Буйніцкага, пакуль заключныя словы прамаўлялі старшыня аргкамітэта Т. Стружэцкі і кіраўнікі горада і раёна — В. Захарчанка і В. Раінчык, я пераглядала запісы ў сваім журналісцкім блакноце ды вярталася думкамі ў першы дзень фэсту. Тады ўвечары адбылося знаёмства калектываў, і кожны з іх заявіў пра сябе маленькім тэатралізаваным прадстаўленнем. "Не, у нас такога не ўбачыш!" — пераконана прамовіла народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч. Можа, яно і так. Прафесіяналізм не толькі дадае, але і штосьці адымае... Па ўсім — па форсу і раскаванасці ў манерах, па артыстычных шаліках і капелюшах, па тым, як выбіваліся кудзеркі і бліскучэлі вочы, па мностве іншых дэталяў і прыкмет было відно: тут сабраліся сапраўдныя артысты. Артысты не па дыпломе і месцы працы, а па духу, светаўспрыманні, спосабе самавыяўлення. Што ж да меры таленту, дык ён і сярод прафесіяналаў размеркаваны неаднолькава. Як той казаў, "Бог няроўна дзеле..."

Цяпер, калі культура ў нялёгкім становішчы, калі зачыняюцца клубы і бібліятэкі, калі ледзьве зводзяць канцы з канцамі бюджэтныя беларускія выданні, аматарства прымушае паставіцца да сябе па-іншаму. Пакуль б'юць гэтыя незамутнёныя крынічкі народнага духу, датуль адраджэнне будзе жывой справай, а не проста прыгожым словам, у лексіконе "нацыяналістаў".

Арганізатары не забыліся ганаровай граматай адзначыць пісьменніцу, заслужанага дзеяча культуры Ніну Загорскую. Вывеўшы "ў людзі" Паўлюка Багрыма, яна "ўзялася" за другога свайго слыннага земляка, і вынікам яе ініцыятывы якраз і сталі "Гасціны ў Галубка". Прагучала думка, што малады і восьмы па велічыні горад рэспублікі мог бы стаць месцам правядзення "фірмовых" штогодніх фестываляў. Знаўцы тэатра нагадалі гаспадарам і пра тое, што да 49 года ў іх горадзе існаваў прафесійны тэатральны калектыў. Ад прадстаўнікоў Беларускага універсітэта культуры была прапанова набраць спецыяльны акцёрскі курс — з тым, каб ідэя стала рэальнасцю, а не павісла ў паветры.

Мне засталося назваць пераможцаў. Імі сталі: Пінскі народны тэатр-студыя "Дыяген" (1-ае месца), 2-гі прыз павезлі ў Рагачоў, а 3-ці атрымаў Драгічынскі народны тэатр. Кіраўнік "Жывой планеты" А. Забалотнікаў быў адзначаны дыпломам за лепшую рэжысуру. Зусім ужо пад канец зазначу ад сябе, што гэты здольны калектыў мог бы браць на сябе больш сур'ёзныя мастацкія задачы.

... А каму належаць словы, якія сталі загалоўкам гэтых нататкаў, я так і не ўспомніла.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**наш спец. кар.**

*Фота Я. КАЗЮЛІ*

# ЖЫВАПІС ВЯЧАСЛАВА ВЯРСОЦКАГА

Пра Вячаслава Вярсоцкага напісана не дужа многа. А шкада. Бо гэта — надзіва арыгінальны каларыст, які валодае экспрэсіўнай пластыкай пісьма. У яго смелых, адухоўленых мазках сплявае гама пачуццяў, якімі поўніцца духоўны свет мастака.

Вячаславу споўнілася сорак год, і пад гэту дату на пачатку 1995 г. адкрылася ягоная першая персанальная выстава. Доктар мастацтвазнаўства, мастак Віктар Шматаў на яе адкрыцці заўважыў, што назва "Жывапіс" надзіва трапна адпавядае зместу экспазіцыі. Бо ў работах Вярсоцкага сплявае сам колер, акрэслены ёмкім, праведзеным нібы на адным дыханні мазком.



На творчае сталенне маладога Вярсоцкага, як пейзажыста, аказаў вялікае ўздзеянне Віталь Цвірка. Вячаслаў, бывала, выязджаў на дачу народнага мастака ў Тальку, дзе вучыўся майстэрству валодання жывапіснай палітрай, віртуознай перадачы няўлоўных колеравых спалучэнняў. Віталь Цвірка так пісаў пра свайго вучня: "...Вячаслаў Вярсоцкі ніколі не паўтараецца ў матывах, колеры і кампазіцыі работ, усе яны ў яго розныя. І ў той жа час Вячаслаў, як неардынарны каларыст, знайшоў свой мастацкі вобраз, свой жывапісна-пластычны стыль. Яго пейзажы пазбаўлены як фармалістычнага тэхніцызму, так і натуралістычнага падабенства — гэта проста добры жывапіс, які жыве, дыхае, гучыць."

Мастак апошнім часам захоплены матывамі роднага Мінска. Але ж не забываецца і на свае ўлюбёныя беларускія краявіды. Ён не можа не працаваць, бо прывучаны да гэтага сваім бацькам мастаком Віктарам Вярсоцкім. Разам з Вячаславам сямейныя традыцыі працягвае сястра Валерыя — мастак-педагог і пляменніца Юля — студэнтка Беларускай акадэміі мастацтваў.

**Галія ФАТЫХАВА**



*Ветраны дзень.*

Тэатр

# ШТУРМ ФРАНЦЫІ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

Паспеўшы за чатыры гастрольныя вандроўкі скарыць Пірынейскі паўвостраў, беларуская балетная трупа ўзяла за мэту гэтак жа рашуча перамагчы Францыю. "Я не супраць таго, каб наша балетная трупа кожны год адзін месяц праводзіла на гастролях у Францыі", — сказаў вашаму карэспандэнту з уласцівай яму сціпласцю мастацкі кіраўнік беларускага балета Валянцін Елізар'еў.

Акадэмічны балетны калектыў на пачатку снежня вярнуўся са сваёй чарговай — чацвёртай па ліку вандроўкі ў Францыю і Швейцарыю. Папярэднія, падчас якіх вазілі балеты "Лебядзінае возера", "Рамэо і Джульета", "Спартак", адбыліся ў сакавіку 1994-га, лютым і сакавіку 1995 года. У час апошніх гастроляў паказалі рамантычны балет "Жызэль" (радзімай якога лічыцца Францыя) і "Шчаўкунчык" у сучасным прачытанні.

Маршрут вандроўкі прайшоў праз дваццаць гарадоў. Сярод іх знакамітыя Каны, Жэнева, дзе ў тэатры "Казіно" даваўся адзіны спектакль "Жызэль", Тулон, Грасэ, Перпіньяр, Міра-мас, многія раёны Парыжа — Шале, Сан Мор, Булон Беланкур. Апошні спектакль нашы артысты паказвалі ў знакамітым фешэнебельным Сен-Жэрменскім прадмесці, якое неаднойчы згадваецца ў творах класікаў французскай літаратуры.

На працягу ўсёй вандроўкі не было ніводнага дня, калі б даводзілася даваць па два спектаклі. Сем выхадных дзён запомнілася артыстам сапраўды казачнымі ўражаннямі — экскурсіямі ў Монтэ-Карло, Манака, Ніцу, Парыж. Імпрэсарыо наладзіў іх беларускім балерынам і танцоўшчыкам у знак асаблівай удзячнасці.

Вядучыя і сольныя партыі ў спектаклях выконвалі І. Душкевіч, К. Фадзеева, С. Гарбунова, Н. Дадзішкіліяні, Ж. Лебедзева, В. Захараў, У. Далгіх, П. Фурман, Р. Мінін, Н. Дацэнка, Н. Бачыла і інш. Глядзельныя залы былі перапоўненыя. Французскі друк высока ацаніў узровень пастановак і майстэрства артыстаў. "Беларуская трупа — дастойны сапернік балетаў Масквы і Санкт-Пецярбурга", "сустрэча з высокім стылем", "харэаграфія, афарбаваная эмацыянальнасцю і эстэтызмам", "поспех нацыянальнага балета Беларусі", — гэта толькі асобныя выказванні французскіх газет.

Вынікам апошняй гастрольнай вандроўкі з'явіліся два новыя кантракты на гастролі ў Францыю і Швейцарыю ў кастрычніку 1996-га і лютым 1997 г. Паводле аднаго з іх, выступленні нашых артыстаў павінны адбыцца ў самым вялікім і найбольш прэстыжным тэатры французскай сталіцы — Пале дэ Кангрэ. У планах балетнай трупы на два бліжэйшыя гады — гастролі ў Германіі (красавік 1996 г.), Японіі (лістапад 1996 г.), Нарвегіі, Бельгіі, Галандыі. Такім чынам, штурм сусветных балетных бастыёнаў працягваецца...

**Т. ФЁДАРАВА**

ЛіМ
ЧАСАПІС



Сяргей ГРАХОЎСКІ



## ЦЯРПЛІВА СПАДЗЯЁМСЯ

**І самому не верыцца, што восемдзесят трэці раз буду сустракаць Новы год.**

**Пражыты амаль дабіў маю душу і сэрца. Мяне, як і многіх цвярозых, да жаху і шоку даводзяць закамуфляваныя прыблізныя "навіны" з крывавага віру ў Чачні. А Боснія, а Герцагавіна!? Кашмары не даюць збыту.**

**Кажуць, "змагаемся за волю і незалежнасць". А я іх чакаў і не дачакаўся. "Воля і незалежнасць" — толькі на шыльдах і трымаюцца. Ці надоўга?**

**Толькі дыхнула адраджэннем нашай культуры, праўдзівай гісторыі, мовы і самастойнасці, як людзі дзесяцігоддзямі са скалечанай свядомасцю і гістарычнай памяццю бяздумна падпарадкаваліся жменьцы ўладных практыкаў, апантаных "собарян", імпартных суседзяў ды рэнегатаў, упраўленых у мяккія і спажыўныя крэслы, і вось выракліся свайго імя, традыцый, культуры і мовы. Вяртаюцца да скампраметаванай ва ўсім свеце камуністычнай чырвані, а дырыжоры і не чырванеюць ад сораму.**

**Пагарталі б яны скрыжалі нашай Радзімы ад Скарыны да нашых дзён і пераканаліся, што мы трацім, якое багацце і моўную прыгажосць топчам імпартнымі макасінамі.**

**Зацятыя беларусафобы залямантуюць: "Вось яшчэ адзін нацыяналіст. Ату яго!" Хоць дваццаць гадоў адпакутаваў з гэтай біркай на змуленай шыі, нацыяналістам ніколі не быў і не буду.**

**Нас толькі тут , дома, 10 мільёнаў, і саромеемся "людзьмі звацца", а сын аварскага народа, якога не больш за насельнікаў аднаго раёна сталіцы, славуты Расул Гамзатаў не пабаяўся мянушкі "нацыяналіста" і заявіў: "И если завтра мой язык исчезнет, то я готов сегодня умереть". А беларусаў за выдуманы пад шчытом і мячом "национал-фашизм" знішчалі тысячы. Толькі ў 1937 годзе расстралялі больш за 200 літаратараў, а за вялікадзяржаўны шавінізм ніводнаму беларусафобу нават не абвясцілі вымовы.**

**Мне скажуць: "У нас двухмоўе". Калі "двухмоўе", дык няхай будзе ўсяго пароўну — школ, газет, інстытутаў, міністэрстваў і кантор. Роўнасць дык роўнасць!**

**У мінулым годзе ўразіла недаравальная несправядлівасць шаноўнага ўрада. Скасавалі капеечныя льготы рэшткам недабіткаў сталінскіх лагераў. Без віны вінаватыя па 10 і па 20 гадоў за міску баланды варочалі горы, а цяпер не выстарчае даехаць да доктара і сваякоў. Няўжо закрэсляць і паняцце "рэабілітаваны"? А колішнія "варашылаўскія стралкі" і тыя, што катавалі на допытах і стралялі ў патыліцы сумленным суайчыннікам, — пры ордэнах, высокіх пенсіях і выгодах з ільготамі. Такія роўнасць і брацтва.**

**За два апошнія гады фактычна ліквідавана літаратура, культура, часопісы, незалежныя выданні. Хтосьці баіцца праўды. Дарэмна. Яна і спрэчная неабходна для сумлення і зроку. Штодня растуць цэны, значыць, на столькі зніжаюцца заробкі і бессаромныя пенсіі, а ганарары — абразліва здзеклівыя.**

**Я з маленства і да фінішнай прамой чую адно: "Пацярпіце, мужайцеся і не ныйце!" Церпім, трымаемся, не скардзімся, а цішком плачам у кулак і трацім, трацім, трацім — неабходнае для існавання, душу, сумленне, мову, праўдзівае слова.**

**Чаго жадаю на наступны год? Росту. Росту эканомікі, дабрабыту абяздоленых у багацейшай краіне, сумлення, волі і праўды, упэўненасці, хоць маленькіх радасцей не толькі да абраных, а дзеля ўсіх, навучыцца ўсміхацца і каб новы Вярхоўны Савет быў сапраўднаю Вярхоўнаю Уладаю, дбаў не пра сябе, а пра Замардаваны Народ, не адмяняў, як яго папярэднік, за паўгадзіны законы, якія ў спрэчках прымаліся пяць гадоў. Жадаю росквіту Навукі і Праўды.**

**З Новым годам! З новым шчасцем усім на нашай слаўнай і любай зямлі!**

Часопісы

# ЦАГЛІНКА ДА ЦАГЛІНКІ...

Якім бы аптымістам ні быў чалавек, ды толькі падстаў для радасці ў наш час надзвычай мала. Нават упэўненасць у лепшым заўтрашнім дні пачынае знікаць. Ва ўсякім разе, калі згадваюцца штодзённыя рэаліі, звязаныя з нацыянальным самасцвярджэннем. Ці не таму і паэты, быццам згаварыўшыся, не хаваюць сваёй трывогі і занепакоенасці, а ў іх творчасці з'яўляюцца вельмі блізкія матывы?

У гэтым лёгка ўпэўніцца, калі пазнаёміцца з паэтычнымі падборкамі лістападаўскіх нумароў часопісаў "Полымя" і "Маладосць". "Полымя" адкрываецца новымі творамі М. Дуксы. Вершы, як кажуць, розныя, ды ў многім падобныя між сабой. Балюча паэту назіраць за тым, што адбываецца на любай сэрцу зямлі. Балюча, таму і не маўчыць яго муза. Не можа маўчаць, калі... "Ступаюць іншыя // па нашым беразе. // Пасталі прышлыя // пад нашы ветразі. // Іх сукні пышныя, // дамы раскошныя. // Прыходзяць іншыя // з ліку няпрошаных. // Маркотна золіцца // наш сумны верасень. // Вось-вось і згорнуцца / ўсе нашы ветразі".

"Выбоіны", "Эстэтыка катэджаў", "Дом творчасці 1995 года", "Сацыяльная абарона", "Карабель вар'ятаў" — усё гэта творы аднаго шэрагу. Востра публіцыстычныя, гнеўна-выкрывальныя. Але — без крыклівай лозунгавасці, якая і непатрэбна там, дзе "душа баліць, а сэрца плача".

У "Полымі" змешчана і новая падборка А. Салтука. Творы таксама ў духу часу. І зноў жа — паэт паўстае не староннім назіральнікам, а актыўным непрымальнікам зла ў самых розных і часам нечаканых яго праяўленнях. І піша пра гэта, бадай, нават вастрэй, чым М. Дукса. Але гэтаксама, як і яго калега, захоўвае тое пачуццё меры, калі, нягледзячы на пафаснасць, у творах усё ж на першым месцы важкасць абагульненняў, пачэрпнутых з вельмі няпростай паўсядзённай рэальнасці, а пазіцыя лірычнага героя — гэта пазіцыя чалавека, які па-сапраўднаму можа адчуць сваё высокае прызначэнне на зямлі толькі ў тым разе, калі яму дадуць мажлівасць заставацца прадстаўніком свайго народа. На жаль, наконт апошняга ўсё яшчэ застаецца спадзявацца на лепшае, бо адбываецца, мякка кажучы, дзіўнае:

**Мы жывем не на сваёй радзіме,**
**Мы жывем не сваёй зямлі.**
**Мы на ёй зрабіліся чужымі,**
**Бо прагнаць чужынцаў не змаглі.**

Прадбачу, як ужо сёй-той гатовы "ўхапіцца" за слова "чужынцаў". Так і чую лямант: "Дажыліся!" Спакойна, таварышы, паны і спадары! Навошта лямант? Паэт і ў думках не збіраецца некага "высяляць". А калі і шкадуе, што "прагнаць чужынцаў не змаглі", то мае на гэта падставы. "Чужынцы" гэтыя ў нас адметныя. У іншых краях іх днём з агнём не знойдзеш. Месца ім знайшлося толькі ў нас:

**А чужынцы — нашага то роду,**
**Нашых беларускіх каранёў.**
**Жменька зброду з нашага народу**
**З нас зрабіла статак халуёў.**

Нічога не запярэчыш: што ёсць — тое ёсць! Беларуская дабрыня і тут навідавоку: "Мы ж для зброду бульбу з жытам сеем, // Кормім яго салам з малаком. // І што мы на лівер цвёрда селі, // Нас абрагаталі за бугром".

Мікола Чарняўскі ("Маладосць") блізкі да ісціны, калі выкарыстоўвае такое азначэнне — "валюта душы" (у аднайменным вершы). Гэта калі паспрабаваць зразумець рэаліі самыя што ні ёсць сучасныя. А пачалося ўсё, на жаль, куды раней. І атрымалася тое, што ёсць:

**З трыбунаў, у друку —**
**Праклёны, рыданні:**
**"Закон не працуе,**
**Нікому не ўказ!..."**
**Ці чуюць іх "Дайджэсты" і "Эрыданы"?**
**Напэўна...**
**Ды толькі смяюцца ў адказ.**

І ўсё ж, як бы там ні было, паэзія на тое і паэзія, каб знаходзіць час і для заспакаення, улагоджвання душы. Усцешваюць вершы пасапраўднаму лірычныя — шчырыя, адкрытыя і пяшчотныя. Як "Чысціня" М. Чарняўскага, прысвечаны сябру — паэту М. Маляўку.

Годна адчувае сябе ў часопісах і проза. Вылучыў бы аповесць Л. Арабей "Касцюмерша" ("Полымя"), хоць сітуацыя, пакладзеная ў яе аснову, не такая і новая. Адзінокая жанчына, як відаць з назвы, чалавек рэдкай прафесіі, закахалася ў рэжысёра. Закахалася даўно і доўгі час хавала свае пачуцці, будучы перакананай, што яна яму не пара. А тут нечакана даведалася , што ў Раманоўскага інсульт, і ён "тры дні праляжаў дома адзін, без памяці, пакуль суседзі не агледзеліся..."

Калі Раманоўскі трапіў у бальніцу, тады і асмелілася Марыя да яго пайсці, ведаючы, што больш няма каму — хоць Раманоўскі і быў тройчы жанаты, ды з усімі жонкамі развёўся. Сустрэліся два "адзіноцтвы", сустрэліся і зразумелі, што ў гэтым тлумным свеце яны проста патрэбны адзін аднаму. Каб выжыць, яны мусяць быць разам. Л. Арабей удалося надзіва тонка зразумець стан душы персанажаў і пераканаўча перадаць іх перажыванні. Тонкім псіхолагам паўстае аўтар і тады, калі Раманоўскі нечакана памірае і Марыя застаецца адна. Мала, што ў чалавека гора, дык яшчэ дачка Раманоўскага прад'яўляе беспадстаўныя прэтэнзіі. Такое жыццё, і паўстае яно са старонак аповесці без прыўкрас.

Чытаецца і "авантурны раман" У. Рубанава "Паветраная жанчына", змешчаны ў "Маладосці". Як вядома, гэта пасмяротная публікацыя — год з нечым, як пісьменніка не стала. Пайшоў ад нас у самым росквіце сіл. І справа не ў адным ўзросце — толькі 42 гады меў. У. Рубанавым было шмат напісана. Акрамя шматлікіх накідаў, засталіся два вялікія творы: ужо згаданы, а таксама яшчэ адзін раман, які рыхтуецца да друку ў часопісе "Полымя".

"Авантурны раман" з элементамі фантастыкі. Сёння гэта, вядома, для літаратуры не нова. А як для беларускай, дык і ўвогуле стала ледзь не модай. Часам назіраецца і пэўнае перабольш-анне. Асабліва, калі некаторым пісьменнікам (у першую чаргу маладым) няма чаго сказаць новага, і тады яны пачынаюць кідацца ў празмернае эксперыментатарства, забываючы (ці не жадаючы памятаць гэта), што як бы шчодра ні працавала аўтарская фантазія, яна ўсё ж мусіць трымацца праблем, звязаных з паўсядзённым жыццём. І не аддаляць ад яго, а набліжаць да яго.

Апошняе акурат добра і бачна ў "Паветранай жанчыне" У. Рубанава. Праблемы, узнятыя пісьменнікам, надзіва сучасныя: "У дзяржаве, дзе я жыву, спецслужба СПАН (Сіндром прышчэпленага антынацыяналізму) займаецца толькі тым, што выкараняе са свядомасці людзей любыя павевы нацыяналізму". З дзейнасцю гэтай службы і сутыкнуўся геройапавядальнік. Мы, на шчасце, пакуль да гэтага не дажылі, а ў астатнім...

У рамане У. Рубанава месцамі адчуваецца, калі па-шчырасці, пэўная зададзенасць, але нельга не радавацца таму, наколькі аўтару ўдалося разабрацца ў матэрыяле, знайшоўшы тое зерне ісціны, дзякуючы якому фантастыка перастае заставацца толькі фантастыкай.

А яшчэ ў "Полымі" — завяршэнне першай кнігі рамана Г. Далідовіча "Кліч роднага звона", пачатак аўтабіяграфіі Д. Бугаёва "Жыццём ідучы..." з глыбокім роздумам аб даваенным (трыццатыя гады) часе. І, што стала апошнім часам добрай завядзёнкай, шэраг матэрыялаў, якія тычацца розных аспектаў нацыянальнай гісторыі — "Эміграцыя" У. Снапкоўскага, "Народныя напоі" Т. Навагродскага, "Ян Баршчэўскі — спрэчкі біёграфаў". Дарэчы, гэтым шляхам усё часцей ідзе і "Маладосць". Вось і ў лістападаўскім нумары можна пазнаёміцца з малавядомым нарысам А. Багдановіча. "Да гісторыі партыі "Народная воля" ў Мінску і Беларусі (1880—1892)", артыкуламі У. Мархеля "Польскамоўная спадчына беларускай літаратуры" і В. Дадзіёмавай "Музыкі паўстання" (пра захапленне музыкай Т. Касцюшкі і яго паплечнікаў). Публікацыі ўсіх гэтых, як і іншых матэрыялаў, як нельга да месца. Гэта, канечне, добра, што ў нас з'явілася ўжо некалькі гістарычных часопісаў, але і іншыя выданні не павінны абмінаць сваёй увагай усе гэтыя пытанні. Не мною заўважана: цаглінка да цаглінкі, глядзіш і гмах вырас. У дадзеным выпадку—нацыянальнай свядомасці.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**P. S.**

Толькі што прыйшоў чарговы нумар часопіса "Нёман". Праўда, здвоены — дзесяты-адзінаццаты. Шкада... Але настрой уздымаецца, калі знаёмішся з апублікаванымі творамі. Іх шмат, цікавых і патрэбных. І асабліва радуе, што нарэшце шырокі чытач можа пазнаёміцца з "Успамінамі" Ф. Булгарына. Але, таго самага, які нават "прапісаўся" і ў "Тарасе на Парнасе". Аднак, калі знаёмішся з артыкулам С.Кузняевай "Той самы Булгарын...", пераконваешся, што ён быў не толькі такім, якім мы ўсе прывыклі яго бачыць. Прынамсі, у лісце да Т. Нарбута, датаваным 1836 годам і знойдзеным у віленскім архіве даследчыкам І. Запрудскім, ён прадстаўляўся так: "Я той самы Булгарын, ліцвін, які стаў рускамоўным пісьменнікам і выдаўцом "Северной пчелы". Аказваецца, памятаў ён пра сваё паходжанне. Дык будзем і мы памятаць пра гэта. Праўда, не абышлося і гэтым разам без ... Мяркуйце самі: пры наборы гэтага месца чамусьці акурат слова "ліцвін" і выпала. Рэдакцыя часопіса "Нёман" просіць прабачэння ў чытачоў. А мы не толькі прабачым, але і падзякуем за цікавую публікацыю.

**А. М.**

# МЕСЯЧНАЯ КАМЕЯ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Але якраз жа тымі днямі па тэлебачанні ішла рэклама дарагога французскага мыла "камея". Памятаеце, жанчына ў чырвоным, павольна паварочваецца праз плячо да вас тварам, пазірае, як поўня ноччу ў вакно, па-сялянску круглатварая, прывабная. Зноў адвярнулася, крочыць у танцы па вялікай нябеснай зале, таямніча ўсміхаецца, усіх спадманваючы, нікому не належачы. І нават калі на ейнай галаве ўжо толькі ружовая стужка, каб не запэцкаць пенай валасы, глядзіць на вас з даверлівай і цнатлівай бессаромнасцю, бы мыючыся ў агульнай лазні. Рыхтык Аліна! Толькі тая і розніца, што Аліна за ўвесь дзень не зірнула ў люстэрка, укінуўшы з раніцы расчоску ў вядро, якім прадае бульбу. "Ну, ты сваё прадасі, такая жанчына прыгожая..." — скажа іншы раз баба, стоячы з ёй побач на кірмашы. Падышоў неяк палкоўнік, у форме, зорачкі на пагонах. Шкада, у мяне, кажа, няма ўжо болей грошай на вашу моркву. "У вас ды няма грошай?! А мы так на вас раўняліся, — дзівіцца Аліна. — Прыходзьце пасля палучкі..." "Як вас завуць?" — пытаецца афіцэр. Ну, палкоўнік яшчэ ніколі ў яе імя не пытаўся. Пэўна, гэта ўжо знаёмства?" Адкажа што-небудзь вясёлае, на ўзвей вецер. "Камароўка на маё бязмужжа, на маю бязроднасць, яна і паспагадае, і пасмяецца, і схітруе, і выручку дасць у руку", як загалосіць. Пачуўшы, што разводзіцца, мужчына адзін, таксама таргуе гароднінай, так і сказаў: "Ай, гэта не ты сама вінаватая, па табе бачу. Я ж не п'ю і не куру. Як толькі муж твой апошнюю нагу забраў праз парог, то і я да цябе ў хату..." Гэта ўжо сватаўство... Каторая гараджанка доўга цацкае ейны тавар, адкіне ўбок, абы плямку заўважыла. Аліна ніколі не пярэчыць. Адыдзецца пераборлівая пакупніца, яна зноў пакладзе выбракаванне на вагі, спадзеючыся неяк жа збыць на кірмашы ўсё, што прывезла. Глядзіць табе ў вочы, як замаўляючы, каб чалавек не перабіраў, мнецца, аж хварэе. Гэтак цяжка яно ёй далося. Яшчэ яно ёй буяе бацвіннем, яшчэ, здаецца, толькі з зямлі, рукамі перабранае, кратаецца, пясочак ад карэньчыка адсыпаецца, як ад жывога. А ўжо яго зямелька назад да сябе забірае, ужо яно сапсавалася, гіне. Глядзіць пакутніцай, не даючы слова сказаць, усумніцца — бяры і з канцом! Не любіць аддаваць зямлі. ніколі нічога не выкідае.

Сёння, перад самым Новым годам, Аліна запазнілася, як ніколі. Камароўку ўжо закрылі, тады яна стала з дзецьмі за варотамі, прадала астатняе. Ішлі дамоў, нідзе ані чалавечка, вуліцы пустыя, светла, усе ўжо недзе каля святочных сталоў, прыбраўшыся. А ёй і так добра. А што тут крыўдаваць, на каго? Дзеці з ёй, усе пры дзеле, усё з ёй, што нажыла. Нечы мужчына забадзяўся, дапамог сесці з цялежкай у аўтобус. І тут пуста, ніхто не зыркае, не сварыцца, што баба з сваімі калясьмі ў гарадскім транспарце. Ехала, глядзела на прыбраны горад з свайго вясёлага, вясковага акна, дзівілася, цешылася — і тут удалося дзень надтачыць, пакуль людзі гуляюць. Жыццё выдавалася бясконца доўгім, упраўным.

Вернецца з таго торгу, завядзе руку з расчоскай над галавой і забудзецца, што збіралася прычасацца. Падайце, дзеці, табурэт сесці, падайце талерку, так змарылася, лыжку толькі што памочыць ва ўчарашнюю капусту і пойдзе спаць. Вецер прагрукоча над дахамі новага мікрараёна, як скоры цягнік — ні дрэўца, ні куста — няма гамонкі. Успомніла наастатак, як адна баптыстка, разам стаяла з гароднінай, таксама таргавала, раптам сказала: "Я думала, што ты... святая... а бачу: у цябе завушніцы..." Усміхнулася, так і заснула. Усмешка далёкай поўні не сыходзіла з твару.

Была гэта відная ноч.

зарубежная імперыялістычная буржуазія, якая прапаведвала, што рускі народ і іншыя народы нашай краіны няздольныя да самастойнай культурнай творчасці і што ўся іх культура ёсць здабытак заходнееўрапейскіх уплываў". Дакладчык абвінавацўў газеты "Советская Белоруссия", "Літаратура і мастацтва", шэраг часопісаў, што яны "аддавалі свае старонкі для заблытаных артыкулаў касмапалітаў, фармалістаў і буржуазных эстэтаў..." Ізноў, як і ў даваенны час, пачалі звальняць з працы найбольш прынцыповых і сур'ёзных, нацыянальна свядомых інтэлігентаў, дзеянні якіх "пярэчылі" нормам сацыялістычнай маралі. У значнай ступені гэта закранула і навукова-педагагічныя кадры. Паводле падлікаў гісторыка М. Сакалова, у 1948/49 н. г. 17 чалавек з іх асяроддзя пазбавілі працы, у 1949/50 н. г. — 20, у 1950/1951 н. г. — 28.

З пэўнай нацяжкай рацыянальным зернем у барацьбе з касмапалітызмам усё ж можна лічыць той факт, што партыя ваявала з тымі яго прадстаўнікамі, якія, як заяўляў першы сакратар ЦК КП(б)Б М. Гусараў на XIX з'ездзе Кампартыі Беларусі, "усяляк імкнуліся прынізіць і зганіць дасягненні культуры беларускага народа". Дакладчык востра крытыкаваў сумнавядомага яшчэ ад даваеннага часу Лукаша Бэндэ, які "ў сваіх артыкулах абылгаў выдатнага беларускага пісьменніка — дэмакрата Багушэвіча, аб'явіўшы яго ідэолагам шавінізму і прапаведнікам каталіцызму". "Бязроднаму касмапаліту" Гальперыну першай партыйнай асобай рэспублікі ставілася ў віну, што ён "паказаў аднаго з буйнейшых беларускіх паэтаў-дэмакратаў Максіма Багдановіча містыкам і дэкадэнтам".

Станоўчым у змаганні з касмапалітызмам можна таксама прызнаць выкрыццё яго намераў, як адзначаў на XIX з'ездзе ЦК КП(б)Б яе сакратар па ідэалогіі М. Іаўчук, "усяліць народам, што іх нацыянальны суверэнітэт, нацыянальная незалежнасць, нацыянальная культура — усё гэта "перажыткі мінулага", ад якіх трэба адмаўляцца ў імя нейкай "сусветнай дзяржавы"... і славутай "сусветнай культуры". Зразумела, каб такія ідэі касмапалітызму запанавалі на Беларусі ды яшчэ былі падтрыманымі яе партыйнымі і дзяржаўнымі органамі, ад малазабяспечанага на практыцы беларускага нацыянальнага суверэнітэту і істотна дэфармаванай нацыянальнай культуры нічога не захавалася б ужо ў бліжэйшай перспектыве.

З удзелам ідэалагічных службаў партыі барацьбу з нізкапаклонствам і касмапалітызмам з цягам часу ўдалося арганізаваць і павесці так, што ўся яе вастрыня была скіравана не вонкі, каб не даць ім прыйсці да нас з Захаду, а ўнутр, г. зн. на адшукванне прадстаўнікоў такіх плыняў у асяроддзі самой навуковай і мастацкай інтэлігенцыі рэспублікі. Па сутнасці гэта была звычайная, добра вядомая і тады і раней барацьба з беларускім нацыяналізмам, які нібыта арганічна ўрастаў у нізкапаклонства перад культурай буржуазнага Захаду і касмапалітызм. Што гэта менавіта так, сведчыць выступленне М. Іаўчука на XIX з'ездзе КП(б)Б: "Зараз беларускія нацыяналісты, якія запрадаліся англа-амерыканскім імперыялістам, цераз сваю агентуру, закінутую імі на Беларусь, звязваюць усе свае надзеі з агрэсіўнымі планамі амерыканскага імперыялізму. Яны спрабуюць пасяліць у насельніцтва страх перад Амерыкай і Англіяй, запужаць насельніцтва эканамічнай і ваеннай магутнасцю гэтых імперыялістычных краін. Разам з тым, яны прапаведваюць наскрозь ілжывыя касмапалітычныя ідэі аб тым, што культура ЗША, Англіі і іншых буржуазных краін нібыта носіць міжнародны характар, усяляк праслаўляюць гэтую культуру...

У нашай друкаванай і вуснай прапагандзе барацьба супраць гэтай новай ідэалагічнай дыверсіі нацыяналістычных элементаў вядзецца далёка не сістэматычна, ад выпадку да выпадку". Дакладчык заяўляў, "што выкрыццё здрадніцкіх касмапалітычных "тэорый" буржуазнага нацыяналізму не кароткачасовая кампанія, а працяглая і сталая работа".

Што яна і сапраўды не з'яўлялася кароткачасовай, сведчаць многія факты, хаця б беспадстаўнае цкаванне таленавітага беларускага вучонага-генетыка Антона Жэбрака, які ў 1947 г. узначальваў АН БССР. Яму прыпісваліся недаацэнка дасягненняў савецкай мічурынскай школы і перабольшванне заслуг рэакцыйных буржуазных генетыкаў. Трымаць такога чалавека на пасадзе прэзідэнта АН БССР партыя ніяк не магла. Але і пасля расправы з акадэмікам А. Жэбракам барацьбу з уплывам культуры Захада кіраўніцтва АН БССР лічыла магістральным напрамкам сваёй дзейнасці. Вынікае гэта з наступных слоў яе новага прэзідэнта Мікалая Грашчанкава, якія ён сказаў на XIX з'ездзе КПБ: "Перад нашай грамадскай навукай, асабліва перад навукай гістарычнай, мовазнаўчай і літаратуразнаўствам стаяць выключна адказныя задачы па поўным выкарчоўванні касмапалітызму і буржуазнага нацыяналізму з названых навук..."

Гэтае выкарчоўванне вельмі дорага абышлося грамадазнаўчым навукам і найперш гістарычнай. Пачалося ж яно намнога раней, чым была аб'яўлена партыяй барацьба з нізкапаклонствам перад Захадам і касмапалітызмам. Партыйныя функцыянеры не скупіліся даваць свае — на іх погляд надзвычай каштоўныя — парады вучоным, як трэба пісаць гісторыю. Павышаную зацікаўленасць да ходу распрацоўкі беларускай нацыянальнай гісторыі КП(б)Б праявіла тады, калі яшчэ толькі намеціліся першыя пазітыўныя зрухі ў аднаўленні народнай гаспадаркі, калі яшчэ многія людзі не перасяліліся з зямлянак у хаты. Ідэалагічныя партыйныя работнікі аказаліся зусім незадаволенымі першым выпускам "Гісторыі БССР", асабліва ўступам да яе, які напісаў сам сакратар ЦК КП(б)Б па прапагандзе Ц. Гарбуноў. У дакладзе першага сакратара ЦК КП(б)Б П. Панамарэнкі на XI пленуме ЦК КП(б) Беларусі (люты 1947 г.) памылкі Ц. Гарбунова называліся нацыяналістычнымі: "Уступ да кнігі ім быў набраны кавалкамі з розных старасвецкіх аўтараў... Ён... утрымлівае ў сябе буйныя памылкі, няправільна асвятляе пытанні паходжання беларускага народа, беларускай дзяржавы, трактуе ўсе галоўныя пытанні гісторыі Беларусі з пункту погляду контррэвалюцыйных нацдэмаў, а не з пункту погляду савецкіх марксісцкіх гісторыкаў". Ц. Гарбунова П. Панамарэнка абвінавачваў перад удзельнікамі пленума ў спробе "арганізаваць усіх гісторыкаў супраць ЦК... пераканаць іх у тым, што пачынаецца паход на гістарычную навуку з боку людзей, якія мала разумеюць гісторыю Беларусі", крытыкаваў за тое, што разглядаў нацыянальнае пытанне галоўным у рэвалюцыі, збіраўся раскопкамі даказаць аб існаванні Полацкай дзяржавы беларусаў. П. Панамарэнка выдаў на пленуме і такую тайну: калі ў ЦК КП(б)Б прапанавалі Ц. Гарбунову, каб не загінуць як дзеячу, выступіць і раскрытыкаваць свае памылкі, дык "ён заявіў, — што ж вы хочаце, каб я вам сваё акрываўленае сэрца на талерцы падаў".

З крытыкай у адрас Ц. Гарбунова цалкам пагадзіўся і прывёў шэраг новых фактаў сакратар ЦК КП(б)Б У. Малін. Яны датычылі сцвярджэнняў Ц. Гарбунова, што нібыта "Беларусь выратавала сябе ад татарскага нашэсця тым, што далучылася да Літвы, а яе знаходжанне ў складзе гэтай дзяржавы азначала штосьці накшталт залатога веку ў гісторыі Беларусі". Яму ставіліся ў дакор спробы ўводу вучоных у мінулае з мэтай адрыву ад даследавання савецкага перыяду гісторыі, перабольшвання ролі беларускага народа ў вайне 1812 г.

Цяжка сказаць, як бы ў далейшым ішла эвалюцыя поглядаў Ц. Гарбунова на гісторыю беларускага народа, але пад уплывам партыйнай крытыкі вучоны карэнным чынам змяніў свае пазіцыі, якія неўзабаве набылі архіінтэрнацыяналістычны характар. Сярод высокіх партыйных асоб Ц. Гарбуноў стаў адным з актыўных змагароў з надуманымі беларускімі нацыяналістамі 40—50-ых гадоў. І ў асабістым плане ён ад гэтага будзе мець вельмі вялікі выйгрыш: не маючы ступені доктара гістарычных навук, у 1959 г. стане акадэмікам АН БССР, на працягу 1960—1969 гг. будзе займаць пасаду акадэміка-сакратара Аддзялення грамадскіх навук АН БССР.

Праблемамі беларускай гістарычнай навукі адразу зацікавіўся пасля прыбыцця ў БССР і першы сакратар ЦК КП(б) М. Гусараў. У сваім дакладзе на XIX з'ездзе КП(б)Б ён паўтарыў многае з таго, што ўжо не раз уздымалася ў партыйным друку, на канферэнцыях і г. д. Як станоўчае, адзначалася, што былі выкрыты "нацыяналістычная тэорыя "адзінай плыні", якая паказвала гісторыю Беларусі, як працэс, што праходзіць без класавай барацьбы", ілжывая нацыяналістычная тэорыйка... нібыта беларуская культура развівалася не пад магутным прагрэсіўным уплывам рускай культуры". Цалкам абвяргалася і наяўнасць "залатога веку" ў гісторыі беларускага народа ў XIV-XVI стст.

Непрафесійнае і тэндэнцыйнае ўмяшанне КП(б)Б у сферу гістарычнай навукі згубна адбілася на яе развіцці. Многія працы, што выходзілі з-пад пяра афіцыйных гісторыкаў, скажона адлюстроўвалі мінулае беларускага народа. Да канца 40-ых гадоў удалося выдаць толькі першую частку тэзісаў, "Аб асноўных пытаннях гісторыі БССР" (1948). Беларуская нацыянальная гісторыя не вывучалася як самастойная дысцыпліна ні ў агульнаадукацыйнай школе, ні ў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах. Маладыя генерацыі беларускага народа ўзгадоўваліся амаль у поўным гістарычным бяспамяцтве, што вельмі разбуральна ўплывала на іх нацыянальную самасвядомасць. Гістарычную памяць навучэнцаў і студэнтаў фармавалі на падзеях і фактах мінулага не беларускага, а рускага народа, што вельмі перашкаджала нашай моладзі адчуць сваю нацыянальную адметнасць, стаць сапраўднымі нацыянальнымі патрыётамі, здольнымі да самаахвярнай працы дзеля роднай Бацькаўшчыны. Праз дамаганні партыйных ідэолагаў з гістарычнай і духоўнай спадчыны беларускага народа выключалі ўсё, што было ўнесена ў яе такімі слыннымі яго сынамі, як Мялецій Сматрыцкі (сакратар ЦК КП(б)Б Міхаіл Іаўчук назваў яго на XIX з'ездзе КП(б)Б іезуітам), Я. Баршчэўскі, Я. Чачот, А. Гарун, Ядзвігін Ш.

Партыйным і савецкім органам вельмі хутка ўдалося ледзь не цалкам паставіць па-за беларускім нацыянальна-духоўным жыццём многія важныя асяродкі народнай адукацыі і асабліва сярэднюю спецыяльную і вышэйшую школу. Яе нацыянальныя асновы практычна былі размыты яшчэ ў даваенны час: у выхаваўча-навучальным працэсе далі поўную волю рускай мове, якая ўжо не бачыла сабе сур'ёзнага саперніка з боку беларускай мовы, самыя адданыя і прафесійныя носьбіты якой у выніку рэпрэсіўных захадаў спецслужб аказаліся па-за педагагічнай дзейнасцю тэхнікумаў і інстытутаў. З такой негатыўнай з'явай трэба было б павесці самую рашучую барацьбу ў вызваленай ад акупантаў Беларусі. Але на даную праблему зусім інакш глядзелі дзяржаўныя і партыйныя дзеячы, кіраўнікі народнай асветы. Іх нікольні не хвалявала, што навучанне і выхаванне ў сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах адразу ж набыло рускі нацыянальна-моўны характар. І вельмі недарэчна, што гэтага недагледзела ці наўмысна ініцыіравала яго само Міністэрства асветы БССР, якое, наадварот, павінна было б дбаць аб развіцці не абы-якой, а беларускай нацыянальнай адукацыі. Відаць, недарэмна, калі пасля смерці І. Сталіна з'явілася магчымасць смела выказваць свае думкі, гэтае міністэрства вельмі востра крытыкавалі нават самі партыйныя работнікі. Вось якую ацэнку яму даў на чэрвеньскім (1953 г.) пленуме ЦК КПБ сакратар Гомельскага АК КПБ З. Галадушка: "Міністэрства асветы БССР, якое адмяніла (з вясны 1951 г. — **Л. Л.**) экзамены ў рускіх школах па беларускай мове і і літаратуры, садзейнічала таму, што на беларускую мову сталі глядзець як на другарадную мову, а бацькі навучаючыхся, бачачы, што ў рускай школе вучні вызваляюцца ад двух экзаменаў па беларускай мове і літаратуры, больш ахвотна пасылаюць сваіх дзяцей у рускія школы". У гэтым абласным цэнтры да вайны працавала 25 беларускіх школ, а ў 1952/53 н. г. — толькі 8, "ды і тыя, — як адзначаў З. Галадушка, — стаяць на шляху пераўтварэння ў рускія школы, таму што ў большай палавіне з іх ужо даўно адкрыты рускія класы".

Не лепшае становішча склалася ў народнай адукацыі ў Палескай вобласці. Тут і ў значнай частцы беларускіх вясковых школ з-за таго, што настаўнікі не валодалі нацыянальнай мовай (зразумела, па віне саміх настаўніцкіх і педагагічных інстытутаў), шмат якія прадметы выкладаліся па-руску.

Сапраўдны нацыянальны вандалізм чынілі з дазволу партыйных і савецкіх улад кіраўнікі і арганізатары народнай асветы ў заходніх абласцях рэспублікі. На гэтай тэрыторыі ў 1952/53 н. г. у 29 раённых цэнтрах зусім адсутнічалі беларускія школы, у т. л. у Гродзенскай вобласці — у 10 раёнах, Брэсцкай — у 7, Баранавіцкай — у 6. Пры такіх умовах гэтыя раённыя цэнтры ніяк не маглі з'яўляцца асяродкамі нацыянальнага жыцця для маладых пакаленняў беларускага народа.

Будучы не ў меру заклапочанымі, каб хаця як-небудзь не адгарадзіліся высокім мурам ад рускай культуры і мовы навучэнцы беларускамоўных школ, Міністэрства асветы БССР, насуперак патрабаванням элементарнай логікі, уводзіць у такіх школах навучанне дзяцей рускай мове з другога класа. Прычым сам працэс такога навучання адбываўся ў поўным адрыве ад мясцовых умоў, таму яго з усёй адказнасцю можна назваць своеасаблівым метадам, сродкам русіфікацыі маладой змены беларускай нацыі.

Практычна зусім адышлі ад беларускіх нацыянальных традыцый вышэйшыя і сярэднія спецыяльныя навучальныя асновы, на што звярнуў увагу прысутных на гэтым пленуме Міхаіл Зімянін, якога прыслала сюды Масква для замены рускамоўнага першага сакратара ЦК КПБ Мікалая Паталічава. "Як ненармальную з'яву трэба адзначыць, — заяўляў М. Зімянін, — што выкладанне большасці дысцыплін у вышэйшых навучальных установах Беларускай ССР вядзецца не на беларускай мове, а ў некаторых вышэйшых навучальных установах выкладанне на беларускай мове зусім спынена. Так, у політэхнічным, лесатэхнічным, планава-эканамічным, а таксама інстытуце замежных моваў, у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі і Гродзенскім сельгасінстытуце, у медыцынскіх інстытутах на беларускай мове не выкладаецца ніводнай дысцыпліны. Беларуская мова стала толькі прадметнай дысцыплінай у радзе беларускіх школ. Пры наяўнасці ў Мінску больш палавіны дзяцей школьнага ўзросту беларускай нацыянальнасці, у горадзе налічваецца толькі 9 беларускіх школ з ліку 48. У такім парушэнні нацыянальнай палітыкі ў галіне асветы дакладчык абвінавацўў ЦК КПБ, мінскія абкам і гаркам партыі. Асабліва грубыя парушэнні нацыянальнай палітыкі дапускаліся ў Гомельскім пединстытуце. Тут у 1952/53 н. г. са 103 выкладчыкаў толькі 26 было беларусаў. Усе, без выключэння, прадметы чыталіся на рускай мове. Рэкорд у дэнацыяналізацыі будучых педагогаў устанавіў кандыдат філалагічных навук, дацэнт Васілёнак (беларус па нацыянальнасці), які на факультэце беларускай мовы і літаратуры выкладаў беларускую літаратуру па-руску.

За ўсім тым, што рабілася ў народнай асвеце Беларусі, вельмі пільна сачылі ў суседніх з ёю Польшчы і Літве. Знявага нацыянальных традыцый з боку саміх афіцыйных улад БССР давала падставы і гэтым краінам нічога не рабіць у галіне нацыянальнай адукацыі беларусаў, што жылі там на сваіх этнічных тэрыторыях. У братняй, як любілі тады пісаць і гаварыць партыйныя ідэолагі, Літве нават спробы адкрыць хаця б адну беларускую школу не далі аніякага выніку. Прычым найбольш супраціўлялася гэтаму законнаму патрабаванню беларусаў само Міністэрства асветы Літвы, маючы поўную падтрымку ад урада. Апошняму меншым злом уяўляўся спаланізаваны беларус Віленшчыны, чым нацыянальна самасвядомы беларус. Вось чаму тут не існавала аніякіх складанасцей з адкрыццём польскамоўных школ, функцыянаваннем касцёлаў з польскай мовай богаслужэння. Не аднавіла сваю дзейнасць Віленская беларуская гімназія, заняткі ў якой, дарэчы, вяліся ў самы пік паланізатарскай палітыкі ў міжваенны перыяд, а таксама ў часы фашысцкай акупацыі.

Вышэйпрыведзеныя факты дэнацыяналізацыі народнай асветы БССР былі характэрныя не толькі пачатку 50-х гадоў. Усё гэта мела месца ў той ці іншай ступені ўжо на самым пачатку пасляваеннага перыяду.

*Працяг будзе.*

# МАЯТНІК ХІСНУЎСЯ ЎЛЕВА — ШТО ДАЛЕЙ?

*(Працяг. Пачатак на стар. 4)*

**— У Акадэмічнай выбарчай акрузе горада Мінска балатаваліся адначасова кандыдат ад БНФ Уладзімір Заблоцкі і прадстаўнік Аб'яднанай Грамадзянскай партыі Аляксей Дудараў. У выніку не прайшоў ні адзін, ні другі.**

— Што тычыць згаданых вамі абвінавачванняў Зянона Пазняка па адрасе сацыял-дэмакратычнага саюза, дык роля Беларускага народнага фронту ў сучасным дэмакратычным руху досыць супярэчлівая і непаслядоўная. Я пра гэта пісаў ужо, згадаю яшчэ раз. Думаю, памыляюцца тыя, хто жорсткі пройгрыш БНФ на апошніх парламенцкіх выбарах (як вядома, франтоўцам не ўдалося правесці ў Вярхоўны Савет ніводнага свайго кандыдата) тлумачыць толькі зланамеранымі "козьнямі" ўлад. Бясспрэчна, што сваю ролю тут адыграла масіраваная прапагандысцкая кампанія супраць БНФ, але, паўтараю, не гэта вызначыла паражэнне на выбарах. Адбылося тое, што павінна было адбыцца. Парламенцкія выбары толькі прад'явілі Фронту "гамбургскі рахунак", які складваўся на працягу шэрагу гадоў яго дзейнасці. У грамадскай свядомасці даўно адбылася фіксацыя палітычнага іміджу БНФ як нацыянал-радыкальнай сілы, амаль няздольнай на кампрамісы. Раз і назаўсёды вызначыўшы свае мэты, сваіх ворагаў і сваіх саюзнікаў, Фронт аказаўся ў палоне выпрацаваных стэрэатыпаў, няздольным адэкватна рэагаваць на такія зменлівыя ў наш час жыццёвыя рэаліі.

І ўсё-такі, я б не стаў вельмі драматызаваць становішча ў нашым дэмакратычным лагеры. Вельмі, да прыкладу, абнадзейвае рост палітычнай папулярнасці Аб'яднанай Грамадзянскай партыі на чале з экс-старшынёй Нацыянальнага банка Беларусі Станіславам Багданкевічам, якую зараз будуць прадстаўляць у Вярхоўным Савеце 9 дэпутатаў. Сярод іх, акрамя Багданкевіча, такія вядомыя ў краіне палітыкі, як Дабравольскі, Шлындзікаў, Ганчар, Карпенка, Лябедзька.

Як вядома, у парламент было абрана больш за 90 незалежных дэпутатаў, у асноўным прадстаўнікоў інтэлігенцыі, дырэктарскага корпусу, айчыннага бізнесу, якім павінна быць блізкай праграма АГП, у аснову якой леглі агульнадэмакратычныя прынцыпы. З усяго гэтага вынікае, што ў Аб'яднанай Грамадзянскай партыі ёсць усе шанцы стаць лідэрам дэмакратычнай апазіцыі прэзідэнцкаму рэжыму і, адначасова, сімвалам новай Беларусі.

**— Усё можа быць, хоць мы, прызнацца, вельмі прызвычаіліся да словазлучэння: "Парламенцкая апазіцыя Беларускага народнага фронту".**

— Давядзецца адвыкаць.

**— Мне застаецца падзякаваць вам, спадар Майсеня, за цікавую гутарку.**

